# Polacak

Published with the financial support of the parish
Mother of God of Zyrovicy,
Cleveland, Ohio, USA.

Друкуецца пры фінансавай дапамозе прыхода Жыровіцкае Божае Маці, Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, г. Кліўленд, штат Агаё.



Прозьвішчы падпішчыкаў і ахвярадаўцаў рэдакцыя будзе публікаваць у часопісе.

All correspondence should be addressed to:
S.Belaia or M.Bielamuk,
10915 Lake Rd., Cleveland, Oh. 44102, USA.
Tel. (216) 651-3451



# Зьмест



**Андрэй Карпук.** Распрацоўка макета вокладкі, шрыфтов рубрык і заставак
На развароце: **Павел Семчанка**. Каліграфія да твораў М.Багдановіча
**На першай бачынцы вокладкі:** Антаніна Лапіцкая. Максім Багдановіч
**На другой бачынцы вокладкі.** Яўген Ціхановіч. Максім Багдановіч.
**На чацвертай бачынцы вокладкі:** Генадзь Грак. Страцім-Лебедзь

# З Калядамі
# і Новым 1992 годам!

Мы сьвяткуем падвойныя сьвяты: Народзіны Госпада, збаўцы нашага Ісу са Хрыста і Народзіны нашай незалежнай Бацькаўшчыны.

Вітаю з гэтымі сьвятамі дзеячоў БНФ і ўсіх змагароў за адраджэньне беларускае дзяржаўнасьці!

Вітаю духавенства Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы.

Вітаю ўсіх тых, што далі ахвяры на Чарнобыль. Вітаю з Раством Хрыстовым рэдакцыю часопіса «Полацак», усіх яе аўтараў і чытачоў!

Вітаю камітэт БАПЦ ў Кліўлендзе. Вітаю Беларуска -Амэрыканскае Задзі ночаньне, Камітэт Беларуска -Амэрыканскае Моладзі,Беларуска -Амэрыканскае Жаночае Згуртаваньне.

Асабліва вітаю нашых ахвярных і адданых харыстаў і ўсіх прыхажан царквы Жыровіцкае Божае маці ў Кліўлендзе. Зычу ўсім добрага здароўя і памыснай працы,

а.Міхась Страпко



Шаноўныя чытачы і спадары-работнікі часопіса „Полацак",

горача віншую ўсіх вас з весёлымі і шчаслівымі Калядамі на амерыканскай зямлі, вельмі жадаю і надалей жыць дружнай з'яднанай сямейкай і рабіць вельмі патрэбную справу на адраджэнні нашае мілай Бацькаўшчыны, за якой наш клопат, нашы спадзяванні, — наш Лёс.

Шчасця вам і поспеху.
Жыве Беларусь!

Васіль Быкаў

ліст. 1991 г.
Мінск





*Шчыра, сардэчна віншую з Калядамі ўсіх суайчыннікаў, супрацоўнікаў і чытачоў часопіса „Полацак", якія аддана дапамагаюць у адраджэньні незалежнай Рэспублікі Беларусь, нашай роднай мовы, культуры. Жадаю, зычу ўсім Вам, Вашым родным і сябрам добрага здароўя, плёну ў працы і шчасьця.*

*Ваш Сяргей Законьнікаў*

*11 лістапада 1991 года Менск.*

**Рэдакцыя часопіса "Полацак" віншуе ўсіх чытачоў, аўтараў, беларускае грамадзтва з першымі Калядамі незалежнай Бацькаўшчыны.**






Цераз пушчы, цераз гаці,
Цераз ляды
Абагрэцца куццёю ў хаце
Ішлі Каляды.

Сена грэлася пад абрусамі,
Свечкі грамнічныя не гаслі.
Коні загадвалі гаспадару самі
Мурагом не абносіць яслі.

Не елі і не пілі
Старыя дзяды,
Пільнавалі, калі
Народзіцца зорка Калядная
І маладзік малады
На адлегу ці на халады
Засвеціцца каля яе,
Каля ўднае.

І мароз хоць раз у жменьці
Запрашалі паспытаць куцці:
— Будзь, Мароз, пры сіле,
Толькі нас не ўшчыкні, не ўкалупні,
І ты, васілёк, ня бойся,
Нябёсьвея ў жменцы! —
Жадалі.
А ячэ прасілі:
— А вы, вераб'і,
Нашых не малаціце,
Ляціце
На суседавы калапні.

А каля рэчкі
Каля Доўтмоцца



Ад спрэчкі прэчкі
Ішлі калядоўшчыкі,
Калядавалі.
Дзякавалі,
Калі давалі.

Ішлі
З торбамі і мяхамі.
Кашалі
Здорам ім махалі
Ў кумпякамі
Часам.
Кавалкам ласым
Калядоўшчыкаў не папікалі.

Затрашаюцца Каляды
За сталы
Кровічанкамі і кровічамі
З ласкаю.
І малы і сталы
Праваячае
Свята наскае,
Кровіцкае.
А над ясьлямі карова
З ціхімі вачамі
Дыхае сабе
Цёплымі поўцкамі.
А ў каровы
Зорачка ў ілбе.

9.XI.91
Менск

Рыгор Барадулін

# *Калядныя прывітаньні*

*Добры-вечар, пані гаспадару!*
*Здароўя тому, хто ў гэтаму дому!*
*Зялёная ялінка зьзяе на ўвесь сьвет!*
*Менскія калядоўшчыкі шлюць Вам прывет!*

*Вітаньне ад зямелькі —Бацькаўшчыны,*
*Ад культурна-гістарычнага клюба «Спадчына».*
*Блаславеньне часопісу «Полацак», што вельмі цікавы*
*Гэта-ж на ўвесь сьвет —Зьява!*

*Знаем, што ў горадзе Кліўлендзе —звон-звон!*
*То на колах гумавых прэ калядны канон.*
*Ой, званы на цэрквах і касьцёлах звоняць*
*А людцы пра тое і пра гэта радасна гамоняць.*

*Моляцца ў цэрквах ды касьцёлах,*
*Бо сьвята Хрыстова шыбуе наўкола.*
*Хрыстос даў вучэньне — жыцьця-аблягчэньне.*
*Шануйце, браткі, адзін аднаго, дзе ёсьць вы на сьвеце.*
*І сілу набудзіце, Хрыстовы дзеці.*

*Слаўце Ўладара-Бога ў калядны вечар!*
*І будзем спадзявацца на новыя сустрэчы!*
*А пакуль мы вам здароўя зычым,*
*Каб не забыліся вы нашых звычаяў...*

*Калядоўшчыкам дай Каляду,*
*Падаруначак, пакуначак ці які клуначак,*
*Асадкаў-ручак, стрыжняў, алоўкаў*
*(Аж прасіць нялоўка).*
*Суайчыньнікі родныя, ня шліце гарэлку,*
*А лепей тое, што ўпрыгожыць талерку!*

Разам з клюбам «Спадчына» калядавала і людзей
добрых зь сьвятамі віншавала Лілея Матусевіч

*Культурна-асьветніцкі цэнтр «Полацак» вітае з Калядныммі сьвятамі і Новым годам ўсіх сваіх сяброў, прыхільнікаў і працаўнікоў на беларускай ніве! Зычым усім здароўя, шчасьця, посьпехаў!*

*Кліўлендзкі аддзел Беларуска-Амэрыкансіх вэтэранаў віншуе з Калядамі і Новым годам! Зычым ўсім шчасьця, здароўя і памыснасьці!*

# Сьвяткуем Каляды

Віктар Шніп

*Да нас вяртаюцца сьвятыя Сьвяты*
*І ў божы дзень да нас прыходзіць Бог.*
*І родны Край, пакінуўшы астрог,*
*Сьвяткуе людска, як і сьвет, Каляды.*

*Да сьветлай Мэты доўгая дарога,*
*Але ўжо знаем існай Волі смак.*
*Хоць нас яшчэ не прызнае чужак,*
*Галоўнае — наш Край прызнаны Богам.*

*І ў божы дзень мы пад каляднай зоркай*
*Усе чысьцеем думкамі, душой*
*І адбуджаем песьняю сьвятой*
*І сьветласьць мары, і ўспаміна горкасьць.*

*І робіць нас людзьмі сьвятое Сьвята,*
*І дзецям нашым паспрыяе Бог.*
*І асьвятляюць вечнасьцю Каляды*
*І цішу курганоў, і тлум дарог.*

*1991*



*Віншую з Раством Хрыстовым і Новым годам!*
*Здароўя, творчых посьпехаў.*
Ядзьвіга Двінская.

*Кліўлендзкі аддзел БАЗА жадае сваім сябрам, прыхільнікам і чытачам часопіса «Полацак» вясёлых Калядаў, шчасьлівага Новага году!*

*Кліўлендзкі Аддзел Беларуска-Амэрыканскага Жаночага Згуртаваньня шчыра вітае кожную беларускую сямейку з Новым годам і Калядамі! Няхай радасьць і шчасьце будзе ў кожнай хаце!*





# Адкуль прыйшло хрысьціянства ў Беларусь?

Сяргей Тарасаў

Адгучалі сьвяты і перазвоны саборных званоў з нагоды 1000-годзьдзя хрышчэньня Усходняй Эўропы і зноў надыйшоў час нястомных пошукаў і навуковага аналізу. У патоку сьвяточнай інфармацыі цяжка было зразумець, адкуль узялося хрысьціянства ў Беларусі, якім яно было першапачаткова, як разьвівалася. У лепшым выпадку ў сьвядомасьці засталіліся імёны сапраўдных волатаў хрысьціянскай культуры: Еўфрасіньні Полацкай, Кірылы Тураўскага, Аўрамія Смаленскага, Сімяона Полацкага. Разам з тым, апісаньне працэсу хрышчэньня Усходняй Эўропы зьявілася да прыняцьця рэлігіі сьв. князем Уладзімірам, хрышчэньня кіяўлян, наўгародцаў. Пасьля — да гісторыі кіеўскіх, наўгародзкіх, пскоўскіх і падмаскоўных манастыроў. Пазьней — да вядомай догмы: «Масква— трэці Рым, а чацьвёртаму ня быць», да аб'яднаньня ўсходнеславянскага праваслаўя вакол Маскоўскай дзяржавы.

Складалася ўражаньне, што больш чым тысячагадовая гісторыя Беларусі ў гэтым ваколсьвяточным «рашэньні», калі не ігнаравалася сьвядома, то як-бы выпала. Але на самой справе мы маем вынік шматвяковай расейскай імпэрскай палітыкі ў галіне навукі і культуры, якая, дарэчы, з зайздросным імпэтам была падхопленая правадырамі камуністычнай ідэялёгіі. Стары-новы дагмат аб тым, што Беларусь —колішняе Полацкае княства была састаўной часткай (правінцыяй) Кіеўскай Русі, меў на ўвазе, што і хрышчэньне гэтых зямель нічым не адрозьнівалася ад Кіева ці Ноўгарада. Але ці так гэта было на самой справе? Надыйшоў час паставіць і гэта пытаньне.

Як справядліва лічаць праваслаўныя багасловы, пранікненьне хрысьціянства на землі ўсходніх славян можна зьвязваць з пэрыядам ад сьв. Андрэя Першазванага да княгіні Вольгі, г. зн. III —IX стст. ад Н.Х.(Филарет. Установление христианства на Руси. Богословские труды, № 28, М.1987). Але трывала яно пачало прыжывацца толькі ў канцы IX ст. Прычым адразу трэба заўважыць, што ўсходнеэўрапейскія прасторы засталіся на той час адзінымі нехрысьціянізаванымі землямі Эўропы. Таму тут і скрыжаваліся інтарэсы каталіцка-апостальскага Рыма і праваслаўнага Канстантынопаля — Бызантыйскай імпэрыі. Аб тым, што гэта было менавіта так, сьведчаць, напрыклад, жыцьці, перакладзеныя з латыні на старaславянскую мову, якія мелі распаўсюджаньне на землях Усходняй Эўропы: Бэнэдыкта Нурсійскага, Анастасіі Рымлянкі, Сьв. Віта й інш. Сама княгіня Вольга, якая першая зь кіеўскіх князёў прыняла хрысьціянства, вяла адносна гэтага перамовы як з Канстантынопалем, так і з Рымам. Яна зьвярнулася да германскага імпэратара Атона I (936— 973) з просьбаю прыслаць у Кіеў каталіцкіх сьвятароў, што тлумачылася яе няўдалымі перамовамі з бызантыйскім імпэратарам Канстантынам УІІ Багранародным падчас паездкі ў Канстантынопаль у 957 г. Безумоўна, на той час сама Вольга трымалася яшчэ паганскае веры. Разам з тым у Кіеве былі добра вядомыя і праваслаўныя мэсіянеры. Цяжка ўявіць, каб зьявіўшыся ў сярэднім Падняпроўі, яны не праявілі цікавасьці да іншых зямель на поўнач ад Кіева, якія тагачасным гісторыкам былі ўжо знаёмыя.

Яскравым сьведчаньнем таго зьяўляецца лёс самога Андрэя Першазванага,

які пасьля наведваньня «Кіеўскіх гор» адправіўся далей на поўнач па Дняпры да Ноўгарада, адтуль — у Скандынавію і далей — у Рым. Такім чынам, апостал прыйшоў вядомым гандлёвым шляхам «З грэкаў у варагі». Гэты шлях у нас часьцей называецца «з варагаў у грэкі» і, мабыць, невыпадкова. Справа ў тым, што землі ўсходняй Эўропы, у тым ліку і Полацкае княства, на гэтым шляху былі толькі транзітным прамежжам. Асноўны гандаль ішоў паміж Усходам і Скандынавіяй, астатнія-ж толькі карысталіся выгодамі гэтага гандлю. У сувязі з гэтым цікава адзначыць, што другая палова X ст.—час шырокага распаўсюджваньня ў Скандынавіі хрысьціянства. Хрысьціянства прыйшло сюды раней, чым ва Усходнюю Эўропу, дзякуючы шматлікім паходам нарманаў ажно да Міжземнага мора. Адпаведна і ўвагу да ўсходнеславянскіх зямель праяўлялі ня толькі мэсіянеры з поўдня, але і з поўначы. Найбольшую цікавасьць для нас уяўляе япіскапская «Сага аб хрышчэньні», запісаная ў канцы XIII ст. аб падзеях канца X ст. Галоўная дзеючая асоба аповеда зьяўляецца Торвальд Вандроўнік. Гэты чалавек, узьведзены пасьля сьмерці ў сан сьвятога, прымаў чынны ўдзел у хрысьціянізацыі Ісландыі. Адтуль ён направіўся ў Ерусалім, дзе быў у вялікай пашане ў самога імпэратара і Канстантынопальскага патрыярха. Зьдзейсьніўшы духоўны подзьвіг паломніцтва, Торвальд вяртаўся у Скандынавію праз Кіеўскую Русь. Тут ён пакінуў па сябе памяць у выглядзе заснаванага «в Русии» манастыра Іана Хрысьціцеля. З спасылкаю на скальда Бранда Вандроўніка, сага апавядае, што Торвальд памёр, так і не дайшоўшы да сваёй радзімы, і пахаваны «у высокай гары на рэчышчы Дроўна», «каля царквы Іана Хрысьціцеля, непадалёку ад Полацка». Гэта сага — першы па часе дакумэнт або твор, у якім прыгадваюцца хрысьціяне на землях Полацкага княства. Нагадаем яшчэ, што апісаныя ў ёй падзеі датуюцца канцом X ст. Мабыць, гэта невыпадкова. Па-першае, таму, што ўжо ў канцы X ст. Полацкая зямля аформілася як самстойнае незалежнае княства. Яе першы летапісны князь Рагвалод як паўнапраўны гаспадар «трымаў, валодаў і княжыў» на Полацкай зямлі. Па-другое, Рагвалод хутчэй за ўсё быў выхадцам з паўночнае Нарвегіі, фюлька (воласьці) пад назваю Рогаланд. Таму зразумела, чаму другі скандынаў — Торвальд Вандроўнік - вырашыў заснаваць манастыр менавіта ў Полацку.

Манастыр Іана Хрысьціцеля (Прадцечы) на востраве ў Полацку дакумэнтальна фіксуецца ў старажытных крыніцах з XIУ ст. Некаторыя дасьледчыкі адносяць яго ўзьнікненьне да XII ст. Але рэшткі самога манастыра дагэтуль не знойдзеныя. Археалягічнымі і геафізычнымі дасьледваньнямі апошніх гадоў вызначаны толькі месцы перспэктыўных пошукаў. Што да «высокае гары», то такая існуе і сёньня непадалёку ад былога манастыра. Падчас вайны 1812 г. на ёй была збудавана артылерыйская батарэя, пазьней —курган Славы 1941 — 1945 гг. Няма падставаў сумнявацца, што сага прыгадвае менавіта Полацак і полацкі манастыр. Што-ж да часу заснаваньня манастыра, то дакладна яго вызначыць могуць толькі археалягічныя дасьледваньні. Прычым,калі будуць знойдзены рэшткі мураваных пабудоваў (а муравапае дойлідства пачало распаўсюджвацца на Полаччыне толькі з другой паловы XI ст.), то варта памятаць, што першыя хрысьціянскія храмы на нашых землях былі ўсё-такі драўлянымі, а манастыры—пячорныя, як, напрыклад, у Кіеве, Пскове, нарэшце, і ў Палесьціне.

Факт існаваньня ў Полацку напрыканцы X ст. хрысьціянскага, праваслаўнага накірунку манастыра (ня будзем

забываць, што Торвальд быў у вялікай пашане ў Канстантынопальскага патрыярха), дазваляе крыху іначай паглядзець на асобы першых полацкіх князёў — Рагвалода й яго дачку Рагнеду. Шырока вядома летапіснае паданьне, па якім барацьба за руку Рагнеды разгарэлася паміж кіеўскім князям Яраполкам Сьвятаслававічам і яго братам Уладзімірам Сьвятаслававічам наўгародзкім, будучым хрысьціцелем Русі. Абодва князі, як сьведчаць крыніцы, былі паганцамі: Яраполк ужо меў жонку і Рагнедавай рукі прасіў у якасьці другой жонкі. Абодва пакланяліся стадам (ідалам). Але ці была язычніцкае веры Рагнеда? Тое, што яна згаджалася стаць другой жонкай Яраполка, сёньня ўжо ня можа быць бясспрэчна прынята ў якасьці доказу яе паганскае веры. Заручыны і жаніцьба былі на той час актам глыбока палітычным. Па-другое, ёй бузумоўна, была добра вядома гісторыя княгіні Вольгі — бабкі Ўладзіміра й Яраполка, якая стаўшы хрысьціянкаю, кіравала народам паганскае веры і жыла ў яго асяродзьдзі. А гэта быў вялікі духоўны подзьвіг. Па-трэцяе, на той час у Полацку ўжо існаваў хрысьціянскі манастыр на Востраве. А як вядома, асноўную стаўку ў мэсіянерскай дзейнасьці сьвятары рабілі на прадстаўнікоў княжацкае ўлады, баяраў і дружыну. Так адбывалася паўсюдна: у Заходняй Эўропе, у Скандынавіі, як мы ведаем, ва Усходняй Эўропе. Таму пазьбегнуць такога ўзьдзеяньня не маглі ні Рагнеда, ні яе бацька — Рагвалод. Нарэшце, чацьвёртае — само летапіснае паданьне і сьведчаньне Цьвярскога летапісу. Рагнеда робіць замах на жыцьцё Уладзіміра. *«За тое, тлумачыць яна, — што бацьку майго забіў і зямлю яго ў палон узяў, а зараз ня любіш ні мяне, ні сына нашага».* Як магла жанчына, адна зь сямі афіцыйных жонак Уладзіміра — паганца, падняць на яго руку? У тагачасных умовах усеабдымнага патрыярхату, адпаведна агульнаэўрапейскаму рыцарскаму кодэксу, гэта немагчыма было нават уявіць! Учынак Рагнеды прасьцей за ўсё можна было-б растлумачыць звычайнай жаночай рэўнасьцю. Што, дарэчы, і рабіла большасьць гісторыкаў. Але якая магла быць рэўнасьць, калі мнагажэнства ў тагачасным усходнеславянскім грамадзтве — рэч больш чым звычайная. Яна — норма жыцьця і залежала толькі ад сацыяльнага становішча мужчыны, яго магчымасьці пракарміць адну ці сем жонак. І галоўнае, на той час такое палажэньне жанчыны было для яе не абразьлівым, хутчэй наадварот. Яе адносіны з мужам вызначаліся колькасьцю народжаных дзяцей. Чым больш дзяцей — тым больш прыязнымі былі адносіны. А як вядома, Рагнеда нарадзіла Ўладзіміру Ізяслава (князя полацкага), Мсьціслава (князя чарнігаўскага і тмутараканскага), Яраслава Мудрага (князя наўгародзкага, а затым кіеўскага), Усевалада ды яшчэ двух дочак.

Абразьлівым становішча Рагнеды нам сёньняшнім, можа падацца толькі таму, што ўсе мы нясем ў сваёй сьвядомасьці хрысьціянскія пастулаты, якія сталі заканадаўчымі нормамі нашага жыцьця, адзін зь якіх — кожны муж павінен мець адну жонку і наадварот. Таму абразіцца Рагнеда магла-б толькі ў тым выпадку, калі была-б хрысьціянкаю. Тым больш, што была першаю (афіцыйнаю) жонкаю Уладзіміра. Усе астатнія — пасьля яе. Апрача таго, дадалася помста за бацькоў, забітых Уладзімірам, за абрабаваную вотчыну — Полаччыну. Калі-ж Рагнеда разам з сынам Ізяславам была выслана зь Кіева, а Уладзімір тым часам ажаніўся ў чарговы й апошні раз на дачцы бызантыйскага імпэратара і пры няў хрысьціянства, ён прапанаваў Рагнедзе выбраць сабе мужа зь яго асяродзьдзя. Гордая Рагнеда адмовілася, зая-

віўшы, што ў такім выпадку яна лепш стане нявестаю Хрыстовай. Пасьля чаго прыняла пастрыг пад імем Анастасіі. На той час усходнеславянскія землі ня ведалі жанчын манахінь. Па-другое, прыняць манашаскі сан, не прайшоўшы па служэнства, а тым больш бязь веры ў Хрыста, было немагчыма. Адсюль можна зрабіць вывад, што Рагнеда да прыняцьця хрысьціянства і жаніцьбы Уладзіміра была веруючай. А гэта магчыма толькі ў тым выпадку, калі з пастулатамі хрысьціянства яна, і вядома, яе бацька Рагвалод былі знаёмыя да 970 г., г. зн. —да захопу Полацка Уладзімірам.

Таму невыпадкова, што першы князь адноўленае полацкае дынастыі —Ізяслаў, сын Рагнеды й Уладзіміра, быў хрысьціянінам Калі верыць летапісам, ён быў *«ціхіі і лагодны»*, любіў і шанаваў царкву, чытаў сьвятыя пісаньні «*и слёзен, и умилен, и долготерпелив*». Большасьць гісторыкаў менавіта зь імем гэтага князя зьвязвае хрышчэньне Полацкай зямлі. Але адразу ўзьнікае пытаньне: а што мы, уласна кажучы, разумеем пад хрышчэньнем зямлі ці княства?

Хрышчэньне Кіева адбылося ў водах Дняпра, куды Уладзімір загадаў загнаць усіх гараджан, паўтарыўшы амаль даслоўна выраз Хрыста: *«Хто не са мной, той супроць мяне»*. Ноўгарад ваяводы Уладзіміра— Пуцята і Дабрыня — хрысьцілі мячом і агнём. Гэта давала падставы лічыць, што падобным чынам адбылося і хрышчэньне Полацка. Але чаму ў такім выпадку на старонках вядомых нам летапісаў няма зьвестак аб хрышчэньні Ізяславам Полаччыны? Калі прычынай лічыць адсутнасьць полацкіх летапісаў, то нават у такім выпадку летапісцы — манахі Кіева і Ноўгарада, якія падрабязна ўказвалі ўсе зьвесткі, наўрад ці абмінулі-б такую падзею. Што-што, а вялікі гвалт, накшталт наўгародзкага, трапіў-бы ва ўсе летапісы, ня толькі ўласна полацкія. Аб гэтым сьведчаць больш позьнія летапісныя запісы, якія тычацца Полацка, але якія мы ведаем зь кіеўскіх, наўгародзкіх, суздальскіх, цьвярскіх і інш. летапісаў. Адсюль вынікае, што гвалтоўнага хрышчэньня Полацкага княства не было .Чаму-ж тады пралілася кроў паганцаў у Ноўгарадзе? Таму, што Ноўгарад быў даўняй, але вольналюбівай вотчынай Уладзіміра. Вялікаму князю кіеўскаму было неабходна сьцвердзіць свае правы на гэты горад і яго воласьць, падпарадкаваўшы яго ня толькі адміністратыўна, але і духоўна. Падобных правоў на Полаччыну ён ня меў, як ня меў, відаць, і дастаткова зброі. Бо ў Полацку напрыканцы Уладзімірава жыцьця (2 апошніх гадоў) правіў сын Ізяслава —Брачыслаў, вядомы сваёй смелай і незалежнай палітыкай. У Брачыслава, калі верыць летапісам і сагам, былі больш трывалыя сувязі з Балта-Скандынаўскім сьветам, чым зь Кіеўскай Русьсю. Нездарма на яго баку супроць Яраслава Мудрага біліся нармандскія дружыны. Апошняе відовішча тлумачылася тым, што полацкія князі свой радавод лічылі не адгалінаваньнем Рурыкавічаў, а самастойным дрэвам Рагвалодавічаў. Пра што і летапіс паведамляе: «Адгэтуль уздымаюць меч Рагвалодавы ўнукі супроць унукаў Яраслава». Такім чынам, сьцвярджаць сваю ўладу пераводам у хрысьціянскую рэлігію ўсіх жыхароў княства полацкім князям патрэбы не было. А з амбіцыямі кіеўскага ўладара Уладзіміра яны лічыліся мала. Тым ня меньш полацкія князі прынялі хрысьціянства. Праўда, у нас няма падставаў сьцьвярджаць, што гэту рэлігію яны праводзілі ў якасьці афіцыйнай. Хутчэй за ўсё з боку княжацкай улады не было перашкод для натуральнага пранікненьня хрысьціянства ва ўсе сфэры тагачаснага грамадзтва.

(Канец у наступным нумары)

# «Беларусь, Беларусь!..»

Уладзімір Конан




Гісторыкі беларускай літаратуры, здаецца, яшчэ не зьвярнулі ўвагі на адну загадкавую і трагічную асаблівасьць: нашую літаратуру ў пачатку XX стагодзьдзя стварылі зусім маладыя людзі. І паміралі яны таксама маладымі. Геніяльнаму аўтару «Вянка» было толькі 22 гады. Сяргей Палуян закончыў самагубствам на дваццатай вясьне свайго жыцьця. Альфонс Петрашкевіч пражыў 24 гады. Алесь Гарун —крыху больш за 33 гады. Аўтару першай «Гісторыі Беларускай літаратуры» (1920) было 27 гадоў. Браніслаў Тарашкевіч надрукаваў «Беларускую граматыку для школ» (1918), калі яму споўнілася 24 гады. Аўтарка «Курганнай кветкі» (1914) — пятнаццацігадовая дзяўчына Канстанцыя Буйло. Сярэдні ўзрост тых, хто найбольш друкаваўся ў «Нашай ніве», «Маладой Беларусі» і «Лучынцы» — недзе каля 22 гадоў. Да трыццацігадовых Янкі Купалы, Якуба Коласа, Антона Луцкевіча, Вацлава Ластоўскага яны зьвярталіся з павагай — дзядзька. Айлёйза Пашкевіч, якой было таксама трыццаць, калі пачыналіся «Наша доля» і «Наша ніва», стала Цёткай беларускай літаратуры.

Трагізм незакончанасьці творчага і чалавечага самавыяўленьня! І тады, калі яно пачыналася занадта позна, як у Багушэвіча, і асабліва тады, калі жыцьцё абрывалася на пачатку духоўнага ўзыходжаньня, як гэта сталася з М.Ybаброквічам (Лявонам Гмарыкам), аднагодкам Багдановіча.

Цяжкі крыж выпаў на долю Максіма Багдановіча й ягонае паэтычнае спадчыны. Па характару свайго таленту ён быў паэтам-артыстам, здольным да глыбокага суперажываньня і пераўвасабленьня. Для такога тыпу мастакоў важна не працягласьць душэўнага перажываньня і няколькасьць жыцьцёвага вопыту, а іх інтэнсыўнасьць і глыбіня. Ці ня тут ляжыць ключ для разгадкі фэнамена Багдановіча? Маю на ўвазе не так раньнюю таленавітасьць (яна характэрна для ўсіх геніяльных людзей), як нейкую дзіўную жыцьцёвую мудрасьць, якой Неба і Лёс звычайна надзяляюць не маладых паэтаў, а хрысьціянскіх асьветнікаў на апошніх этапах іх подзьвігу. Тут, як кажуць, —Боскі дар, тайна, якую да рэшты не адгадаеш.

Ёсьць, аднак, другі, літаратурны бок гэтага фэнамену: як мог пісьменьнік, жывучы далёка ад сваёй Бацькаўшчыны, так глыбока спасьцігнуць схаваныя ад чужога вока скарбы яе быцьця і культу-

ры? Ці дастаткова тут адных кніжак, фальклёрных, этнаграфічных зборнікаў і слоўнікаў, як думалі крытыкі 20-30 гадоў і пазьней? Як насуперак «заходнерасейскаму» асяродзішчу сям'і этнографа Адама Багдановіча здолелі «на вольны сьвет прабіцца» тыя крыніцы народнай моватворчасьці, якія жылі ў душы будучага паэта — спадчынны дар яго таленавітых сялянскіх продкаў?

У 20-я гады І. Замоцін заўважыў: «Калі ўзяць пад увагу, што маленькі Максім пражыў у Горадні першыя пяць гадоў свайго жыцьця да пераезду бацькі ў Ніжні Ноўгарад у кастрычніку 1896 г., то нельга не адзначыць гэтых раньніх і, безумоўна, спрыяльных уражаньняў ад роднае прыроды, якая адыграла вельмі важную ролю ў разьвіцьці яго паэтычнай творчасьці.

З публікацыяў Т.Кароткай «Тут нараджалася слова» (Голас Радзімы, 1983, 15 вер.) і «Радок у біяграфію паэта» (Літаратура і мастацтва, 1983, 7 кастр.) стала вядома, што чатырохгадовы Максім з братамі Вадзімам і Лёвай, разам з маці правёў вясну і лета 1895 года ў сваёй цёткі Сьцепаніды Апанасаўны, муж якой, Франц Секержыцкі, служыў аб'ездчыкам неўпадалёк ад чыгуначнай станцыі Асіповічы. Відаць, «гродзенскіх» і «асіповіцкіх» уражаньняў для таленавітага дзіцяці было дастаткова, каб далучыцца душою да роднага краю. Ракуцёўскае лета 1911 года было таксама не эпізодам, а важным этапам у жыцьці паэта-юнака. Бо ўжо праз год пасьля гэтай падзеі ён прыслаў у рэдакцыю «Нашай нівы» рукапіс «Кніжкі выбраных твораў»— амаль гатовы паэтычны «Вянок».

Ці пад сілу быў гэты подзьвіг зусім маладому паэту, які, паводле меркаваньняў дасьледчыкаў, вывучаў родную мову па лексічных і фальклёрных зборніках? Хутчэй за ўсё адбылося нешта іншае: у раньнім дзяцінстве маці-Беларусь «запісала» сваю мову на чыстых лістах уражлівай душы свайго сына, напявала яму свае песьні і казкі ў сне, пазначыла крыжам хрышчэньня на любячым сэрцы дзіцяці. А другое, сталае «хрышчэньне» адбылося летам 1911 г. ў Вільні і Ракуцёўшчыне: прычашчэньне духоўным «віном» Бацькаўшчыны. Відаць, дасьледчыкі прынялі за кніжнае «вывучэньне» роднае мовы волатаўскую працу над словам — рэч звычайную і штодзённую для кожнага прафэсыйнага паэта. Ня варта браць на веру меркаваньне В.Ластоўскага (Мае ўспаміны аб М.Багдановічу, — ЛіМ, 1989, 22 ліст.), быццам-бы тады, у 1911 г., «мову М.Багдановіч знаў яшчэ дрэнна і, гаворачы, збіваўся на маскоўшчыну». Майстэрства вуснага маўленьня залежыць хутчэй ад штодзённай практыкі, ад жывога сумоўя, а не ад глыбіні пазнаньня мовы. Сёньня выдатныя майстры беларускага слова, штодзённа жывучы ў расейска-моўным асяродзьдзі, якое запанавала нават у іхніх сямейках, частагуста «зьбіваюцца на маскоўшчыну», неппрыемна ўражваючы наіўных школьных настаўніц. І гэта цяпер, калі, скажам, у нашым Доме літаратара альбо на філёлягічных факультэтах можна пачуць чыстую беларускую гаворку. А для аўтара «Вянка» наогул «не было куды пайсьці», каб заглянуць на «адзеньне душы» аднамоўцы і па ёй скарэктаваць сваё беларускае маўленьне. Вось у якіх умовах ствараласся «зачараванае царства» ягонае паэзіі.

У гэтым нарысе я хацеў-бы закрануць адну, але найважнейшую тэму — месца М.Багдановіча ў беларускай адраджэнскай паэзіі пачатку нашага стагодзьдзя. Маё-ж прачытаньне спадчыны паэта прапануецца чытачу ў кніжцы «Сьвятло паэзіі і цені жыцьця: лірыка Максіма Багдановіча». Адзначу, толькі

складаны шлях вяртаньня Багдановічавых скарбаў да сучаснага беларускага чытача. Напачатку паэта не зразумелі і ня толькі той-сёй з рэдакцыі «Нашай нівы», але нават блізкія да яго людзі, свая кі і сябры ў Ніжнім Ноўгарадзе і Яраслаўлі. Пазьней фундамэнтальнае значэнь не спадчыны Багдановіча ўсьвядомілі беларускія дзеячы 1917—1920 гг., супрацоўнікі газэт «Гоман», «Наш сьцяг», «Вольная Беларусь», «Беларусь», а потым заснавальнікі пісьменьніцкага аб'яднаньня «Узвышша», супрацоўнікі Інбелкульта. Двойчы выдавалася спадчына Ба гдановіча (праўда, няпоўна): у 20-х гадах літаратурнай камісіяй Інбелкульта пад рэдакцыяй І. Замоціна (Творы Максіма Багдановіча т.1-2. Менск, 1927-1928) і ў 1968 г. інстытутам літаратуры Акадэміі навук БССР (Багдановіч М. Збор твораў у 2-х тамах. Мн., 1968) За мяжой нашыя землякі-беларусы выдалі «Максім Багдановіч. Вянок паэтычнай спадчыны» (Нью-Ёрк — Мюнхен, 1960). Сёлета інстытут літаратуры ў Менску падрыхтаваў да выданьня Збор твораў паэта ў трох тамах.

Далучэньне Багдановіча да «нашаніўскай» паэзіі пачалося з адраджэнскай сымболікі. Яму, малодшаму сучасніку Купалы, Коласа і іх пасьлядоўніку, у гэтай галіне належыць бяспрэчны прыярытэт. Прыйшоўшы ў літаратуру некалькімі гадамі пазьней за сваіх настаўнікаў, ён ня толькі шчасьліва пазьбегнуў эпігонства, але зь першых-жа паэтычных крокаў стаў наперадзе іх, на «сымбалічным» участку нацыянальнай літаратуры, якая яшчэ толькі ствералася. Успомнім: першы твор М.Багдановіча апавяданьне - эскіз «Музыка» друкаваўся 6 ліпеня 1907 г. ў «Нашай ніве». Толькі яшчэ пачыналася трэцяя хваля нацыянальнага Адраджэньня (першая дала нам пачынальнікаў новай беларускай літаратуры XIX ст., К. Каліноўнскага і В.Дуніна-Мар цінкевіча, а другая Ф.Багушэвіча, Янку Лучыну, і А.Абуховіча). Толькі праз год выйдзе ў сьвет першая паэтычная кніжка Янкі Купалы «Жалейка». Тады яшчэ не склаўся ў Купалы спэцыфічна беларускі сымбалізм і рамантычная канцэпцыя творчасьці як зьвернутага да народу прароцтва. Коласава паэма «Сымон-Музыка» зьявіцца праз дзесяць гадоў. Былі, праўда, выдадзеныя за мяжой Ра сейскай імпэрыі «Дудка беларуская» і «Смык беларускі» Ф.Багушэвіча ды «Скрыпачка беларуская» Цёткі — назвы, відавочна, сымбалічныя для нацыянальнага Адраджэньня. Але тады і сымбалічны сэнс яшчэ не быў усьвядомлены літаратурнай грамадзкасьцю і ўспрыймаўся як знак этнаграфічнай народнай культуры, зь якой і пачыналіся вытокі нацыянальнае літаратуры.

Багдановічаў «Музыка» таксама паходзіць адтуль, з фальклёру, але ў гэтым прасьценькім эскізе ёсьць ужо сьвядомая ўстноўка на стварэньне паэтычных міфаў-сымбаляў. У ім пазначана драма станаўленьня новай нацыі, якую не хацелі прызнаць «злыя і сільныя людзі», выкрываецца гістарычны падман, спроба чужых «туркаў» і «сваіх» янычараў падмяніць самую душу народу, падсунуць яму чужыя каштоўнасьці. Паслухаем самога паэта. «І тыя, што загубілі музыку, узялі яго скрыпку і пачалі самі граць на ёй народу. Толькі іхняе граньне нічога не казала. «Добра граеце, — гаварылі ім,—ды ўсё ня тое!» І ніхто ня мог растлумачыць, чаму ад граньня музыкі так моцна білася сэрца бедакоў. Ніхто не ведаў, што музыка сваю душу клаў у ігру». Прайшлі гады. «Скрыпка разьбілася. Але памяць аб музыку не загінула зь ім разам. І з-паміж таго народу, катораму ён калісь граў, выйдуць дзесяткі новых музыкаў і граньнем сваім будуць

будзіць людзей к сьвету, праўдзе, брацтву і свабодзе». Перад намі абагулены вобраз, легенда-парадыгма той заканамернасьці, якая сёньня пазначаецца паняцьцем нацыянальнага Адраджэньня.

Пазьней М.Багдановіч зноў вярнуўся да гэтае тэмы. Маецца на ўвазе рускае апавяданьне «Сон-трава», напісанае паміж 1913 -1916 гг., відаць, для яраслаўскай газэты «Голос», але па нейкіх прычынах там неапублікаванае. Гэтая прытча пра стваральнікаў фальклёру цікавая тым, што яе аўтар, прыхільнік гегелеўскай альбо, шырэй, клясічна-рэалістычнае тэорыі мастацтва, прапанаваў чытачу рамантычную «рэпрызу» да асноўнай тэмы беларускага «Музыкі».

Сёньня вобраз Музыкі прызабыўся ў грамадзкай сьвядомасьці, хоць і назаўсёды застаўся нашым літаратурным сымбалем, асабліва, пасьля выхаду ў сьвет паэмы Я.Коласа «Сымон-Музыка». Затое другі адраджэнскі сымбаль — «сіні васілёк» застаўся паэтычнай мэтафарай Беларусі. А яго паэтычны радавод пачынаўся зь верша М.Багдановіча «На чужбіне» (1908), упершыню апублікаванага 15 кастр. 1909 г. у «Нашай ніве». Яшчэ не былі створаныя чарадзеныя санаты «Зачараванага царства», калі паэту прысьнілася гэтая кветка Беларусі:

*Вакол мяне кветкі прыгожа красуюць,*
*Маркотна між іх я хаджу адзінок,*
*Аж бачу— мне сіняй галоўкай ківае*
*Наш родны, забыты ў цяні васілёк.*
*«Здароў, будзь зямляча!» Чуць бачны даліне,*
*Панура, нявесела шэпча ён мне:*
*«Успомнім, мой дружа, у багатай чужыне*
*Аб беднай, далёкай сваёй старане».*



Верш «На чужбіне» сымбалічны яшчэ ў іншым пляне. Сапраўды, паэт жыў у Расеі, вакол яго прыгожа красавалі кветкі блізкай яму, але няроднай, культуры. Ён ведаў яе, але заставаўся самотным, пакуль не прыкмеціў «Забыты ў цяні васілёк» — сымбаль Беларусі, роднай мовы і культуры. А ўспомніўшы «у багатай чужыне» сваю «бедную далёкую старану», аддаў жыцьцё сваё дзеля яе адраджэньня і духоўнага ўзбагачэньня. Урэшце, васілёк у жыце меў яшчэ для нашага паэта іншы, агульначалавечы сымбалічны сэнс, пазначаў мастацкія і духоўныя каштоўнасьці наогул. Так спакваля ўзьнікала трохчасткавая паэтычная «саната васілька».

Верш-васьмірадковік «На чужбіне» быў яе экспазыцыяй, дзе пазначана нацыянальна-спэцыфічны сэнс тэмы. Пазьней ёй вярнуўся да яе распрацоўкі ў апавяданьні ці больш дакладна евангельскім белым вершы «Апокрыф», апублікаваным у «Каляднай пісанцы» за 1913 г. У яраслаўскай «Северной газеце» (1-2 студз. 1914 г.) твор друкаваўся ў аўтарскім перакладзе пад назвай «Притча о васильках». Пра тое, што М.Багдановіч уклаў у гэты твор свае самыя патаемныя думкі пра чалавека і мастацтва, сьведчыць лірычная форма выказваньня («Ад Максіма Кніжніка пачатак») і жанр евангельскага сказу—свайго роду «добрая зьвестка» пра Бацькаўшчыну, народ, яго сапраўдныя каштоўнасьці.

З трох частак гэтай сымбалічнай «санаты васілька» М.Багдановіч уключыў у «Вянок» сваёй паэзіі толькі заключную песьню-рэпрызу «Слуцкія ткачыхі». Любімая народам кветка ў «Апокрыфе» выступае сымбалем быційнай рэальнасьці — народнай душы, духоўных каштоўнасьцей, аб'ектызаваных у гісторыі і нацыянальнай культуры народу. Яна зьяўляецца там яшчэ разгорнутай метафарай, вобразна выяўляе эстэтычныя погляды аўтара. У лірычным шэдэўры «Слуцкія ткачыхі» паэтычны сымбаль пераносіцца ў

таямніцу суб'ектыўнага душы таленавітых жанчын-мастачак, якія, паводля мастацкай праўды, а не эмпірычнай гісторыі, ткалі славутыя на ўвесь сьвет залатыя паясы.

Паводля беларускіх народных традыцыяў, ткацтва — спрадвечная жаночая справа, а мужчына-ткач выглядае фігурай камічнай, гратэскавай. (Зь гісторыі мы ведаем, што ткачы пэрыяду мануфактурнай вытворчасьці — пераважна мужчыны, а майстры слуцкіх паясоў былі яшчэ выдатнымі ювелірамі) Вобраз мужчыны — ткача не стварыў-бы таго высокага лірычнага драматызму, якога дасягнуў М.Багдановіч зь першых радкоў сваёй песьні: *«Ад родных ніў, ад роднай хаты// У панскі двор дзеля красы// Яны, бяздольныя, узяты// Ткаць залатыя паясы»*. А яшчэ паэт імкнуўся стварыць тут сардэчна-душэўны, лірыка-мастацкі вобраз Бацькаўшчыны, а не той яе духоўна-геpaічны і мужны пачатак, які так узьнёсла загучаў пазьней у гімне «Пагоня». За доўгія часіны ў панскім двары, ткачыхі ткалі *«шырокія тканіны на лад пэрсідзкі»* і забылі свае *«дзявочыя сны»*. Але думкі міжволі імнкуліся *«Туды, дзе расцьвіла вясна;// дзе блішча збожжа ў яснай далі, // Сінеюць міла васількі»*. І вось адпалі клясічныя каноны: «*І тчэ, забыўшыся, рука//, Заміж пэрсыдзкага ўзора,// Цьвяток радзімы васілька»;*

М.Багдановіч справаю даказаў, што ён умее грунтоўна дасьледаваць гісторыю і культуру беларусаў ды іх братоў-славян. Але ў мастацтве ён заставаўся лірыкам. У гісторыі роднага краю паэт адкрывае непаўторную чалавечую асобу, паўнату і напружанасьць духоўнага жыцьця, выявіўшы пры гэтым надзвычайную сілу мастацкай інтуіцыі, якая быццам у кінематографе схоплівае жыцьцёвую плынь далёкай мінуўшчыны. («Летапісец», «Агата», «Песьня пра князя Ізяслава Полацкага» й інш.)

Паэт пражыў кароткае жыцьцё ў далечыні ад сваёй любові — апетай ім Бацькаўшчыне. Ці не пагэтаму ён так пранікліва сказаў пра беларусаў-уцекачоў у «Эміграцкай песьні»? Ці ёсьць у сусьветнай лірыцы твор такога трагічнасьветлага гучаньня пра нявольных эмігрантаў? Драматызм песьні грунтуецца на кантрасным супастаўленьні двух псыхалягічных тыпаў і чалавечых лёсаў: Вось тып прадвечнай «варожай» вольніцы: «*Ёсьць на сьвеце такія бадзягі,// Што ня верацьні ў Бога, ні ў чорта.// Ім прыемны стракатыя сьцягі// Караблёў акіянскага порта»*. Ім усяроўна — жыць ці загінуць. Абы толькі *«пабываць у краях незнаёмых ды зазнаць там і шчасьце і гора»*. Не таго жадаюць беларусы-ўцекачы: не рассталіся-б яны з родным краем, каб было дзеля іх у нас хлеба. І на вулках чужых гарадоў, пад грукат і гоман ім «*маячыцца вёсачка; Нёман і агні партовыя Любавы*». Верыцца, што гэтыя людзі, павязаныя жывымі ніткамі душы з роднымі карэньнямі, вернуцца ў свой край, каб адраджаць Бацькаўшчыну.

Невядома, калі быў напісаны паэтам чарнавы накід верша «Беларусь, Беларусь!» У яго заключных радках — гістарычная трагедыя духоўна багатага народу. Але і разам з тым — надзея на ўваскрашэньне:

*Як нявехня ў народнай сям'і*
*Ты пасагу сабе не надбала,*
*Залатыя кляйноты твае*
*У пыху сёстрам сваім даравала...*



1891 • 1991





*1891 • 1991*

# Гісторыя адной знаходкі

Сьвятлана Белая




Пра жыцьцё і творчасьць клясіка нашай літаратуры Максіма Багдановіча напісана шмат кніг, артыкулаў. З кожнай публікацыяй мы адкрываем для сябе ўсё новыя грані яго таленту, штрыхі да яго-най біяграфіі. Але невядомых, не да кан ца высветленых старонак жыцьця Максі-ма—Кніжніка яшчэ нямала. Адной зь іх зьяўляецца яго творчая спадчына.

Мінула 84 гады з часу, калі быў на-друкаваны першы твор Максіма Багда-новіча. Але і сёньня пільныя дасьледчы-кі знаходзяць невядомыя раней нашчад-кам яго творы. Як адзначае Л.Мазанік, адна з складальнікаў III выданьня Збору твораў М. Багдановіча, нядаўна *«былі выяўленыя (ў асноўным у яраслаўскай газэце Голас за 1913-1916 гг.) апавяданьні «Імяніньніца», «Колька», «Цуд маленькага Петрыка», «Злачынства», «Экзамен», «Валгары», «Каля тэатра мініяцюраў», «Каля білетаў», казка «Вежа міру», творы, жанр якіх быў вызначаны як «маленькі фельетон» —«Калейдаскоп жыцьця», «Карлік і чалавек», «Нумізматы», «Ванька-ўстанька», «У гасьцях у дзяцей», «Шкада кнігу», «Пра хабар», публіцыстычныя творы «Дзьве смерці», «Дзіцячая калонія», «Кааператыўная нарада», «Мімаходам», «Пакуты бежанцаў», «Пасяджэньне гарадской думы» (дзьве нататкі), «За сахарам», «У сяле Хрэст», «На вуглу», «Гадавіна народнага дома», «Справа па абвінавачваньні ў разбоі», «Замах на ўзброены крадзёж», «Замах на падпал», «Пад пагрозай пакараньня смерцью»; рэцэнзіі «Новыя лісты Л.М.Талстога», «Славянская бібліятэка» (№1), «Любоў Сталіца. Елена Дзеева», «П.А.Крапоткін пра вайну», «Ежегодник Вологодской губернии», «Ежегодник газеты «Речь» на 1914 г.», «Украинская жизнь» (1915, № 1-12), «У. Вінніченка, Збор твораў. т.1-VIII) (Творы былі выяўлены тэкстолягамі Інстытута літаратуры АН БССР С. В.Забродскай, К.В.Піліповіч, Т.Р. Строевай, А.І.Шамякінай, а таксама Н.Б.Ватацы, М.П.Пазьняковым, В.І.Мікутай і С.Белай)». (Весьці Акадэміі навук БССР, № 4, 1991, ст.99-100, сэрыя грамадзкіх навук)*

Ды нельга сказаць, што Поўны збор твораў будзе сапраўды поўным. На на-шую думку, ёсьць яшчэ нямала невыяў леных твораў Багдановіча. Тых, што пад пісаны невядомымі дасюль псэўданіма-мі або і зусім не маюць подпісу, як зда рылася з «Новымі лістамі Л.М.Талстога».

Калі расшуквала ў Яраслаўскім дзяр жаўным архіве творы М.Багдановіча, тра піла мне ў рукі кніга былога супрацоў ніка газэты «Голос» М.Р.Агурцова «Опыт местной библиографии».Агурцоў быў доб рым прыяцелем Максіма, і праз яго рукі праходзілі амаль усе творы Багдановіча. Праглядаючы кнігу, у раздзеле «Аб Някрасаву» ўбачыла: М. Багдановіч— Голос, 1915, № 238, 1916, № 24. Творам за 1916 г. была ўжо друкаваная рэцэнзія «Архив села Карабихи». Матэрыялам за 1915 г. аказалася невядомая рэцэнзія «Новыя лісты Л.М.Талстога». Яна — бяз подпісу. Верагодна, ён быў зняты ў самы апошні момант у тыпаграфіі, калі наборшчык скарачаў некалькі радкоў рэцэнзіі, што не ўвайшлі ў адведзеную плошчу. Толькі добрая памяць Агурцова й ягоная кніга дапамаглі вярнуць для нас гэты цікавы твор. Але колькі яшчэ твораў М. Багдановіча чакаюць свайго адкрыцьця?! Знайсьці іх і данесьці да чытача — вось задача і абавязак нашчадкаў.





# Новыя письма Л.Н.Толстого



Максим Богданович



В июльскай книге «Русской Мысли» помещено пять, доселе не опубликованных, писем к Н.А.Некрасову, заимствованных из сброника «Архив села Карабиха», который имеет выйти осенью[1]. Но, кроме этих пяти, в сборнике появятся еще 12 других писем Толстого к Некрасо ву. Они тем более любопытны, что относятся к начальному периоду литературной деятельности Толстого (1853-1858 гг.); они показывают более, чем мы знали до сих пор, как шатки и неуверенны были его первые шаги.

В сентябре 1853 года, — пишет в «Бир<жевых> Вед<омостях> Г.Гершензон, из Пятигорска он посылает в редакцию «Современника» рукопись «Записок маркера». Наученный горьким опытом, он пишет при этом Некрасову: «*Я дорожу ею (т.е. этой статьей) более, чем Детством и Набегом; поэтому в третий раз повторяю условие, которое и полагаю для напечатания — оставление ее в совершенно том виде, в котором она есть. В последнем письме Вашем Вы обещали мне сообразоваться с моими желаниями в этом отношении. Ежелии бы Цензура сделала снова вырезки, то, ради Бога, возвратите мне статью, или, по крайней мере, напишите мне прежде печатания*». Мы не знаем, что отвечал Некрасов, но «Записки маркера» были напечатаны в »Современнике» только в январе 1855 года, и конец рассказа —предсмертное письмо Нехлюдова — был сильно сокращен в печати (подлинный текст был восстановлен только недавно по рукописи, хранившейся в Московском Румянцевском музее).

Но и Некрасов был небрежен в отношении к молодому писателю: в декабре 1854 года Толстой жалуется на его шестимесячное молчание, на неполучение «Современника» с августа: он еще не знает, напечатаны ли его «Записки Маркера», которые все еще лежали в портфеле редакции, и присланное после этих «Записок» «Отрочество», которое уже появилось в октябрьской книжке.

Зимою 1855-56 г. Толстой, как известно, попал в Петербург и близко сошелся с Некрасовым и со всем кружком «Современника». Он в то время много писал и печатался уже не только у Некрасова, но с конца 1856 г. и в «Отеч<ечственных> Зап<исках>» Краевского, и в «Библ<иотеке> для чтения» Дружинина. Он быстро шел вперед — и вдруг, с осени 1857 г. началась заминка. Рассказ «Люцерн», напечатанный в «Современнике» в сентябре 1857 г., был отрицательно встречен критикой, и, что важнее, сильно не понравился в печати самому автору. 11-го октября Толстой пишет Некрасову: *«Какова мерзость и плоская мерзость вышла моя статья в печати и при перечтении. Я совершенно надул себя ею да и вас кажется»* и дальше: *«На меня, пожалуйста, больше не расчитывайте, надоело мне писать ковыряшки, да еще скверные. Вчера прочел, как меня обругали в «Пет<ербургских> Вед<омостях> », и по делом. Скажите мне, пожалуйста, откровенно мнение Дружинина и Анненкова. Как они с вами говорили про эту статейку?»* Он сам говорит, что находится *«не в духе»*. Дней через 10 после этого письма он поехал в Петербург. 30-го вернулся в Москву; любопытны строки его дневника, писанные им тотчас после этой поездки (они приведены у Бирюкова): *«Петербург снача-*

---

Упершыню друкуецца па газэце «Голос» ад 4(17) кастрычніка 1915 г. Захаваны правапіс першадруку— С.Б.

*ла огорчил, потом оправил меня. Репутация моя пала, или чуть скрипит, и я внутренно сильно огорчился; но теперь я спокоен, я знаю, что у меня есть, что сказать, и силы сказать сильно: а потом, что хочет говори, публика. Но надо работать добросовестно, положить все свои силы, тогда...плюют на алтарь».*

Но дело так же пошло и дальше. В декабре Толстой послал Некрасову какую-то повесть, и Некрасов вернул ее ему (об этом есть указание и в декабрьском письме 1857 г. Некрасова к Тургеневу, приведенном в книге Пыпина о Некрасове). Возможно, что речь шла о «Семейном счастии». Толстой без обиды принял отказ: из его ответа не видно, чтобы он сам считал свою повесть слабою; напротив, он пишет, что работал над нею почти исключительно целый год и исполнил ее «сколько мог», что читал ее С.Т.Аксакову, и тот был ею очень доволен; но он согласен, что большинству читателей она действительно не нравится, потому, что это — *«не повесть опи сательная, а исключительная, которая вся должна стоять на психологических и лирических местах.»* Месяц спустя он пишет, что спрятал свою повесть, но придумал еще к ней переделки. По-видимому, та же история повторилась и с «Альбертом»: в феврале 1858 г. Толстой обещал на днях прислать Некрасову две вещи на выбор, *«из коих одна есть тот же несчастный всеми забракованый музыкант, от которого я не мог отстать и еще переделал».* «Альберт» был напечатан в «Современнике» в августской книге этого года.

Эти письма показывают, между прочим, что в ту пору Толстой энергично старался исправить свое литературное положение. У него принцип: «Драть сколько можно больше за свое писание». Подписав в числе других ближайших сот рудников обязательство печатать свои вещи исключительно в «Современнике», он через некоторое время, впрочем, совершенно дружески, выражает желание расторгуить *этот договор, во-первых, потому, что ему хочтеся печатать и в других журналах, во-вторых, потому что ему уже...*[2]

Тон писем Толстого приязненный, но довольно холодный, и даже после петербургского сближения; это надо отметить, потому что вообще Толстой был склонен, как известно, к большой любовности в переписке. Только одно письмо[3] (январь 1858 г.) начинается несколькими теплыми строками, кстати, очень характерными для Толстого. Некрасов, по-видимому, писал ему, что старается «забыться» за картами; на это Толстой отвечает: *«Нехорошо это, полтора месяца не присылают расчета, любезный Николай Алексеевич, что вы так себя распустили. Нехорошо для тех, кто вас любит, нехорошо для дела, и главное, для самих вас». Ведь и без того скоро умрем и забудемся совсем, так стоит ли того насильственно забываться, да еще без счастия для себя и без пользы и счастия для других»;* Толстой в те годы был очень барином и графом, в среде профессиональных литераторов он чувствовал себя вероятно чужим, отсюда, может быть, и его сравнительная холодность к Некрасову. В письмах Толстого встречаются литературные отзывы, но они незначительны. Любопытен только его отзыв об «Асе», как о самом слабом из всех произведений Тургенева.

---

2. Выдзелены курсівам тэкст зьмешчаны ў арыгінале ніжэй.

3. Пры скарачэньні гэтага месца наборшчык пераблытаў радкі і таму далей у газэце надрукавана: «этот договор, во-первых, потому что ему хочется печатать и в других журналах во-вторых, потому, что уже *1858 г.)* начинается несколькими теплыми дивиденда строками, кстати, очень характерными для Толстого.




Сьвятлана Белая

## «Ты не згасьнеш, ясная заранaчка...»




І зноў восень. І зноў заплакала неба, зямлю пакідаючы. І зноў пачаліся заняткі ў ліцэі.

Гусі адляталі ў вырай і зіму на хвастах цягнулі. Першы сьнег, такі белы, пушысты, выпаў у верасьні. Ён ператварыў белакаменны горад у нейкае зачараванае царства, зь белымі царквамі, бялюткімі дамамі, сляпуча-сьветлымі дрэвамі. Назіраць з вакна такую прыгажосьць было немагчыма. Максім выйшаў на вуліцу, каб на першароднай зямлі пакі - нуць свае сьляды. Ён ішоў да Волгі, на Стрэлку. Але бераг ракі нярадасна сустрэў яго. *Холадам веяла ад пацямнеўшае вады, непрыветна глядзеў круты бераг. Тут-жа адзінока стаяў апусьцелы гмах даўно ўжо зачыненага і закалочанага летняга тэатра, а на яго сьцяне вецер трапаў і прабаваў сарваць старую сьлізкую, напалову адляпіўшуюся афішу.* Максім хацеў павярнуць назад, але раптам яго аклікнулі, *з баковай дарожкі набліжалася панна, каторая, павітаўшыся, заглянула ў яго вочы і сказала зь вясёлым сьмехам: «Вы чулі, Аня Рафаілаўна выходзіць замуж за Яна? Шлюб прызначаны на заўтра».*

*Пасьля гэтых слоў сталася нешта зусім неспадзяванае. Максім нязграбна ўзмахнуў рукамі, немаведама чаму пачаў папраўляць сабе белы каўнерык ды, скончыўшы, апусьціўся на лаўку і закрыў далонямі твар, схіліўшы галаву амаль не да кален. Напружыліся жылы на яго шыі, і як затрасьліся, так і не пераставалі трасьціся вузкія плечы.* Губы яго, як закляцьце, шапталі: «Аня...мая..нікаму не аддам».

Колькі-ж ён прасядзеў так, ён ня помніў. Да хаты прыйшоў, калі было ўжо цёмна. Ён хацеў хутчэй схавацца ад хатніх, ад сумных думак у сваім пакойчыку, але каб трапіць туды, трэба было праходзіць праз пакой стрыечнага брата Пятра Гапановіча. Той жыў у іх хаце і працаваў разам з бацькам у банку. Пётр лічыў, што Максім мае заўзятыя адносіны да самастойнай Беларусі, якія да рэшты паглыналі ўсе яго турботы і ўсю ўвагу. Яму здавалася, што ягоны брат замыкаецца ў сваім пакоі, ізаляваным ад жыцьця, паглыбляецца ў гэтыя пытаньні і ў такой шчыльнай падвойнай абалонцы праводзіць свае маладыя гады. Яму, пэўна, хацелася вылячыць яго ад той заўзятасьці. Таму ён весь час стараўся весьці размовы, якія паказвалі нязбытач

насьць гэтых мараў. Для гэтай нагоды ён выкарыстоўваў любы момант: у час абеда за сталом, у хвіліну, каля Максім некуды зьбіраўся. Вось і ў той вечар, не зважаючы, што Максім прыйшоў у хату сам не свой, ён пачаў гутарку адносна немажлівасьці свабоды Беларусаў. Але Максім першы раз нічога не сказаў яму на тыя прыкрыя заўвагі. Маўкліва ён пайшоў у свой пакой. Узяў у рукі пяро і паліўся з душы плач сэрца ягонага:

*Магда, Магдачка,*
*Мая кветачка -пралесачка!*
*Не кахацца мне, хлопу, з табою,*
*Ваяводы старога дачкою.*
*Сёньня з войтам цябе заручаюць,*
*Рушнікі вынімаюць,*
*Русу косу тваю прапіваюць.*
*То не траўка павіліка расплятаецца,—*
*Наша вернае каханьніца канчаецца.*



Над горадам ціха ішоў сьнег. Ён замятаў сьляды Максіма, скрываў сілуэты прахожых, і толькі тую сьцяжынку каханьня, якая вяла яго да Ані, сьнегапад не ў сілах быў прыхаваць. Максім спрабаваў не ўспамінаць тых шчасьлівых хвілін спатканьня зь Аняй, але памяць зноў і зноў вяртала яго да іх. Ён поўнасьцю аддаўся творчасьці, пісаў шмат рэцэнзіяў для газетаў «Голос», «Наша ніва», часопіса «Русский экскурсант», працаваў над новым цыклам «На ціхім Дунаі». Але і гэтае не дапамагло. Тады юнак вырашыў паехаць на лета ў Ніжні Ноўград, да сваёй цёткі Машы, якая ў дзяцінстве яго гадавала і якую ён вельмі любіў. У Ніжнім Ноўградзе жыла Нюта, яго стрыечная сястра. Максім заўсёды меў да дзяўчыны цёплыя пачуцьці. Ёй прысьвяціў ён рукапісны зборнічак «Зеляня», у якім пераклаў у расейскую мову 22 вершы зь «Вянка». Але здароўе, якое пагоршылася не дало мажлівасьці наведаць Ніжні Ноўград. Каб крышку падлячыцца, ён едзе ў Крым. Там яго чакалі знаёмства з Клавай, прыгожай але замужняй маладой жанчынай, захапленьне ею і новыя пакуты расстаньня. Ён вярнуўся у Яраслаўль вонкава паздаравеўшы, але змучаны душою. Над ім вісеў нейкі рок, які не дапускаў да яго звычайнага чалавечага шчасьця.

...Максім сыйшоў зь цягніка і не пазнаў Яраслаўля. Рэха першай сусьветнай вайны дакацілася і да гэтага ціхага волжскага горада. Ён напоўніўся ўцекачамі. Змучаныя, галодныя і без усялякай веры шукалі яны паратунку і прыстанішча. Недалёка ад хаты Багдановічаў, на Уласьеўскай вуліцы ў невялічкім памяшканьні знайшлі прытулак 800 уцекачоў-яўрэяў. Умовы, у якіх прыйшлося жыць людзям з маленькімі дзяцьмі, былі жахлівымі. Для іх не знайшлося нават маленькай кухні. І за ежай, шклянкай гарачай гарбаты прыходзіласяісьці на суседнюю Барысаглебскую вуліцу, дзе таксама мясьціліся яўрэі-уцекачы. Прытулак не належыў няшчасным людзям. Гарадзкія ўлады загадалі ім да 15 жніўня вызваліць гэтае памяшканьне.Максім, для якога чужое гора было ягоным уласным, ня мог спакойна назіраць за мытарствамі ўцекачоў. Узрушаны, ён напісаў артыкул у газэту «Голас», у якой з абурэньнем казаў аб тым, што гораду трэба быць больш гуманным у адносінах да ўцекачоў. Ён добра разумеў, як цяжка ім тут на чужыне, далёка ад радзімы, ад дома, родных, бо і сам быў выгнаньнікам у далёкай чужой старане. Максім ведаў, што сярод людзей, якія прыехалі ў Яраслаўль, ёсьць і ягоныя суайчыньнікі. Таму ён пільна ўглядаўся ў твары ўцекачоў, услухоўваўся ў іх мову, пытаўся ці не зь Беларусі яны. Нарэшце, шчасьце ўсьміхнулася яму.

Дзень быў цёплы, нават вельмі цёплы для раньняй вясны. Максім, толькі што пад'еўшы ў студэнцкай абедні, сядзеў за сталом і глядзеў праз вакно, як вецер гоніць па небу прыгожыя аблокі. Раптам

да яго даляцела беларуская гаворка. Так-так, ён ня мог памыліцца. За суседнім столікам сядзелі некалькі маладых людзей і на прыгожай беларускай мове дзяліліся ўражаньнямі ад заняткаў. Максім падхапіўся, падбег да іхняга стала. Вочы яго гарэлі, сам ён быў незвычайна ажыўлены ад нечаканай радасьці.

—Адкуль вы?

—Мы зь Менску. Студэнты Менскага настаўніцкага інстытуту.

— Як даўно вы прыехалі з Бацькаўшчыны? Ці прыляцелі ўжо ў нас гракі?

—Гракі ўжо, пэўна, прыляцелі. А вы.

—А дзе сабе гнёзды вьюць буслы? — Максім засыпаў гэтых маладых беларусаў пытаньнямі. Тыя ледзь-ледзь пасьпявалі адказваць на іх.

—А бярозавік ужо пайшоў? А які ён на смак? Якія першыя кветкі на Беларусі? Пралеска? Яна блакітная, так? Бо інакш і быць ня можа, чыстаму блакітнаму веснавому небу зямля павінна нарадзіць адпаведны падарунак.

Студэнты былі зьдзіўленыя.

—Хто Вы, адкуль,— хацелі запытацца яны, але не пасьпелі. Максім Багдановіч папрасіў прабачэньня, што пера шкодзіў хлапцам абедаць і пайшоў на свае месца. У галаве насіліся вобразы, музыка вясны гучала вакол яго. І яму так хацелася апынуцца на сваёй Бацькаўшчыне, у гэтай блакітнай краіне. Удыхнуць водар яе паветра...

Ён не заўважаў нічога, ён пісаў у сваім блакноце:

*Вось чмель прагудзеў аксамітны,*
*Вось ярка-зялёная мушка...*
*І ўрэшце з краіны блакітнай*
*Ўлятае маленькая птушка.*

Потым ён зноў падыйшоў да сваіх новых знаёмых.

—Давайце знаёміцца, —зь нейкай асаблівай цеплынёй сказаў ён беларусам. —Вы нікуды не сьпяшаецеся? — Пачуўшы, што яны маюць вольны час сказаў: — Тады я прапаную прайсьціся да Волгі.

Максім павёў землякоў па сваіх любімых мясьцінах. Ён чытаў вершы, быў узрушаны і, нарэшце, шчасьлівы. З таго дня яны амаль не расставаліся. Пасьля заняткаў, разам з новымі сябрамі Максім то ішоў у бібліятэку, дзе яны сумесна шукалі цікавыя зьвесткі па гісторыі Беларусі, то рыхтаваўся да вечароў мастацкай самадзейнасьці, на якіх часта чытаў свае вершы. Даведаўшыся неяк, што хлапцы яшчэ ні разу не былі ў Воўкаўскім тэатры, запрасіў іх на опэру Глінкі «Іван Сусанін» або, як яна называлася раней, «Жыцьцё, аддадзенае за цара».

Прэм'ера опэры была прызначана на нядзелю. Вечар быў прыгожы, і Максім прапанаваў землякам выйсьці з хаты раней, каб мець мажлівасьць прайсьціся па горадзе. Яны крочылі нетаропка, і ў цішы ўрачыста гучаў голас Максіма, які расказваў гісторыю першага нацыянальнага прафэсыйнага тэатру Расеі, што вёў свой адлік з 1749 г.

—Менавіта тады яраславец Фёдар Воўкаў сабраў аматараў для гульні камэдыі і пачаў даваць спэктаклі для гараджан. Спачатку ў дамах багатых купцоў, а ў 1750 г. Воўкаў стаў рэгулярна рабіць свае паказы ў вялікім памяшканьні амбара купца Палушкіна. Вось тады, мае шаноўныя сябры, і нарадзіўся расейскі тэатр. Хачу засяродзіць вашую ўвагу, што гэтае сталася ў сярэдзіне 18 ст. Першы-ж тэатр ў Беларусі—нашая батлейка, вядзе свой летапіс з 16 ст. У 16 ст. на нашай зямлі працавалі пры калегіумах і брацкіх школах так званыя школьныя тэатры з характэрнымі для яго паказаў народнымі ўстаўкамі інтэрмедыямі. А ў сярэдзіне 18 ст. ствараюцца прыватныя тэатры ў Нясьвіжы, Слуцку, Шклове, Магілёве, Чачэрску, Слоніме, Сьвіслачы, Плешчаніцах, па ўсёй Беларусі.

—Але вернемся да Воўкаўскага тэатра, — з эмпэнтам працягваў Максім. У 1751 г. Воўкаў знайшоў для яго новае спэцыяльнае памяшканьне. Ды праз некаторы час ён вымушаны быў пакінуць свой родны горад. Па загаду імпэратрыцы воўкаўцы ўзяты на сцэну сталічнага тэатра. А яраслаўскі сталі ўзначальваць браты Фёдара — Аляксей і Гаўрыла. Толькі матэрыяльныя прычыны не дазволілі ім працягваць распачатую справу. З 1756 г. тэатр перастаў існаваць. І адрадзіўся толькі ў пачатку 80-х гадоў XYIII ст. Для яго пабудавалі спэцыяльнае памяшканьне.

Калі Багдановічы прыехалі ў Яраслаўль старога будынка тэатра ўжо не было, і ў горадзе йшлі дэбаты, якім быць новаму тэатру. Нарэшце, 28 верасьня 1911 г. адбылося афіцыйнае яго адкрыцьцё, на якое зьехаліся многія вядомыя сцэнічныя дзеячы. К.С. Станіслаўскі, які ня змог прыехаць, даслаў тэлеграму-віншаваньне. А шматлікія мецэнаты ахвяравалі тэатру творы мастацтва. Адкрываў тэатральны сэзон спэктакль А.Астроўскага «Маланка». Цудоўная трупа, надзвычай прыгожыя дэкарацыі. І аб тэатры хутка загаварылі нават у сталіцы.

І сапраўды, антрэпрэнёр Варатнікоў сабраў цудоўны творчы калектыў. Выдатныя пастаноўкі, прыгожае афармленьне прынесьлі вялікі посьпех. Кожны новы спэктакль быў лепшы за папярэдні. Усё гэта патрабавала шмат намаганьняў і сродкаў. Нядзіўна, што Варатнікоў, ня вытры маў такога напружанага рытму і пакінуў тэатр.

Другі сэзон трупай кіраваў багаты, але бяздарны антрэпрэнёр Каралі. Ён адразу зьмяніў рэпертуар. Афішы стракацелі громкімі назовамі мяшчанскіх мэлядрамаў: «Жалезная маска»,«Зладзейка дзяцей» і іншых падобных пастановак, якія прыносілі прыбытак.

Зь імем Каралі й яго трупай у Максіма адбыўся такі выпадак. Аднойчы рэдактар газэты «Голос» заказаў яму зрабіць агляд яраслаўскага часопіса «Микроскоп», які даволі часта бестактоўна і беспадстаўна нападаў на «Голос» і яго супрацоўнікаў. То быў штотыднёвы невялічкі часопіс, які насіў шантажны характар. Досьціпам, едкасьцю сатыры ён не вызначаўся. Затое адзначаўся грубымі выпадамі супроць грамадзкіх дзеячоў ці гандлёвых фірмаў і прадпрыемстваў. Ад яго можна было адкупіцца толькі зьмясьціўшы ў ім абвестку. Такім чынам ён і набыў сабе кліентуру. Пакуль Каралі не карыстаўся паслугамі «Микроскопа», той зьмяшчаў на яго карыкатуры і вершыкі:

*Купец именитый Каралли*
*Поддался наживы дурману,*
*Он верен единой морали:*
*Служи не искусству — карману.*
*Купец именитый Каралли*
*Сменил на торговлю искусство...*

Але як толькі Каралі прынёс ў часопіс першую аб'яву Воўкаўскага тэатра, «Микроскоп» адразу надрукаваў вялікі артыкул. У ім апавядалася аб тым, як публіка чакае адкрыцьця сэзона, як з тэатрам зьвязаныя ўсе яе надзеі. Гэты й іншыя факты і прывёў Максім у сваім артыкуле «Жёлтые цветы»,надрукаваным ў«Голосе» 12 лютага 1914 г. А праз тыдзень «Микроскоп» зьмясьціў на сваіх старонках адразу тры матэрыялы, прысьвечаныя «Жёлтым цветам».

... У тую раніцу Максім адкрыў часопіс і — зьдзівіўся. Не, ён чакаў, што «Микроскоп» адкажа на «Жёлтые цветы» і паспрабуе яго абліць брудам. У гэтым ён не сумяваўся, бо добра вывучыў хамільённа-прадажнае аблічча часопіса. Але каб тры матэрыялы, прысьвечаныя яго артыкулу ў адным нумары... Такога Максім не ўяўляў. Пісалі самыя злосныя пер'і часопіса. Відаць, моцна закранула

выступленьне Багдановіча, калі сам рэдактар Семяноўскі ўзяўся за пяро. Ён спрабуе адыграцца, піша, што ня вельмі закрануты заўвагамі аўтара. Але чаму тады ён так хапаецца за кожны, нават самы нязначны факт? Рэдакцыя спрабуе такім чынам набыць індульгенцыю? Але не хапіла ў раз'юшаных апанэнтаў ні фактаў, ні таленту для сур'ёзнага абвяржэньня. Максім зь нейкай абыякавасьцю чытаў той артыкул «Расшаркивающиеся лжецы».

«Долго и прочувственно молчал «Голос» в отношении нашего журнала, даже о предстоявшем его выходе в свет не обмолвился ни словом, уделяя в то же время место таким общественным явлениям, как кражи, неметенные улицы, грязь и проч., долго не замечал, не видел журнала, хотя журнал и бросал ему иногда не совсем приятные обвинения в лицо, и наконец, заметил!

Да еще как! —посвятил журналу чуть не полномера!

С большой, вероятно, не заслуженной нами добросовестностью, г. Богданович, автор ст. «Желтые цветы», занялся изучением журнала за целый год. Шаг за шагом усидчиво и кропотливо собирал в журнале «факты», имеющие повергнуть его в прах. Эта внимательность и добросовестность нам несказанно польстили.

Но грянул гром!.. неожиданный, не из тучи и мы... остались невредимы.

Добросовестности у г.Богдановича хватило только на чтение журнала, но это не смутило «Голос», и он напечатал его статью.

Приступая с душевным трепетом к ее чтению, мы думали увидеть оценку общественной роли журнала, оценку его идейной работы за целый истекший год и обнаружили передергивание «фактов», попутно расшаркивание перед его высокостепенствами и просто степенствами—«Местными уважаемыми общественными деятелями» и их прислужниками, переставшими, очевидно, давать «гоно рар» объявления.

...К сожалению, недостаток места не позволяет распространиться о причинах, вызвавших появление статьи «Желтые цветы». Причины эти так очевидны!

...Мы не станем в этой заметке касаться вопроса о театре и «Рекорде», о которых в этом номере печатался фельетон «Демона», и отзыва «Южанина», укажем лишь на полную необоснованность ссылки на объявления Н.А.Донцева.

После распродажи, когда Н.А. Донцев открыл «Венский магазин», по «Голосу», раз мы писали о Н.А. Донцеве, нам нужно было отказаться от предложенного Н.А. Донцевым объявления?

Так что ли?

Этого удовольствия мы «Голосу» не доставили, и он здравствует устами г. Богдановича.

Дальше — г. Новиков и магазин обуви г. Дмитриева. Всякому читателю журнала известно, что магазин Дмитриева вовсе не печатает своих объявлений в журнале, если не считать нескольких объявлений в начале прошлого года, т.е. почти год назад. И вот Богданович прибегает к гнуснейшему средству лжи. «Фирма Дмитриева,—пишет он— печатает объявления в «Микроскопе» постоян но»;

Пусть читатели перечитают «Микроскоп» за год и увидят, что Богданович— лжет.

... Частный факт з Новиковым, взятый для характеристики справок института о кредитоспособности, для Богдановича повод увидеть защиту «дельца».

...Мы могли бы привести еще много фактов из вашей полезной деятельности, не в пользу степенств и высокостепенств, если обладали желанием ответить такой же добросовестностью, но общество уже оценило вашу деятельность и выработало определенное отношение. И если читает «Голос», то

только потому, что в Ярославле нет газеты. Мы не настолько уязвлены ст. г. Богдановича, чтобы опускаться до серьезной полемики з вами. Ведь это только ваши статьи, только ваши передергивания, ну а с вами не принято серьезно считаться».

Максім перачытаў гэты артыкул спакойна, ён быў падрыхтаваны на нешта падобнае. А ўсё-такі моцна закранулі за жывое ягоныя «Желтые цветы» рэдакцыю. Ніжэй рэдактарскага артыкула стаялі яшчэ дзьве публікацыі. Невядомыя асобы, захаваўшыяся за выдумленымі імёнамі Южанін і Демон, недалёка адыйшлі ад свайго патрона паператасоўцы фактаў. А па паклёпу нават пераўзышлі. Асабліва Южанін, які будучы зусім незнаёмым з Максімам, у артыкуле «По поводу «Желтых цветов» піша: «Богданович удивляется, откуда мы раньше знали, что М.Муравцев —премьер, первый герой любовник, а п. Максимова известная провинциальная актриса с амплуа молодой героини. И что всего интереснее, — говорит он, — написано это в то время, когда новая труппа п.Каралли не успела ещё дать ни одного спектакля.

Для г.Богдановича это, правда, очень большой секрет.

Потому что человек совсем незнакомый с театром, и, как он мне сам признался, был в театре только раз и то 10 лет назад».

Гэта быў такі падман і паклёп, што Максім, які звыкся з хлусьнёй «Микроскопа». ітое зьдзівіўся. Хацеў паказаць артыкул бацьку, які раней у Горадні быў прадстаўніком таварыства драматычных пісьменьнікаў і опэрных сьпевакоў, каб разам пасьмяяцца, але потым перадумаў. А сапраўды, калі ён апошні раз быў у тэатры? Звычайна ён хадзіў толькі на вельмі значныя спэктаклі, або калі ролю выконваў дужа вядомы акцёр. Але апошнім часам рэпэртуар быў настолькі пасрэдны, што Максім перастаў наведваць тэатр. І вось выдаўся выпадак паказаць сябрам прыгожы палац Воўкаўскага тэатра.

Вялікая напоўненая сьвятлом тысячаў агенчыкаў заля тэатра імя Ф.Воўкава. Партэр, ложы, галёрка,—усюль кры ху ўсхваляваная публіка. Хаця сябры паклапаціліся і прыйшлі загадзя, сесьці разам ім не ўдалося. І таму сустрэліся толькі ў антракце. Максім быў ўсхваляваны, яго зачаравала прыгажосьць тэксту, музыка опэры. Ён адчуваў, што яе сіла ў народнасьці.

—Дзе народ, там і хараство, там і сі ла, там і праўда, — горача казаў ён сябрам. Фігура Сусаніна! А арыі, а хор! Сапраўды, так можа сьпяваць толькі народ. Думаеце, не мае ў сабе гэтай прыгажосьці і беларуская песьня? Толькі, на вялікі жаль, мала я іх чуў.

Максіму пашанцавала. Васіль Гарбацэвіч, які ведаў шмат песен з усіх беларускіх абрадаў, пад уражаньнем пачутага, вырашыў зрабіць канцэрт бела рускай песьні. Багдановіч ня верыў, ён настойваў, каб зараз-жа пасьля спектаклю. Але быў позні час і вырашылі перанесьці канцэрт на наступны дзень.

Пасьля заняткаў Максім не йшоў, а ляцеў на кватэру Гарбацевіча. Ён гарэў жаданьнем хутчэй пачуць родныя мэлёдыі і ўсё прысьпешваў сябраў. Канцэрт пачаўся зь вясельных песен. Расказваючы пра кожны абрад, Васіль сьпяваў характэрную песьню. Асабліва ўсхвалявала Максіма «Ой, ляцелі гусачкі цераз сад»,«Няма горшага ката ад родненькага брата», «У гордае цешчы стой зяць за варотамі», «Наляцела сівых галубоў».

Калі Васіль скончыў сьпяваць, Максім падбег да яго, пацалаваў і пачаў горача дзякаваць, паўтараючы: «Якое багацьце! Якая музыка! Зрабіць-бы гэта фо нам для беларускае опэры». Трохі супакоіўшыся, ён дадаў: «Вось толькі скон

чу гэты пракляты ліцэй і зараз-жа паеду ў Беларусь, дадому. Абавязкова пабуду на вясельлі. Годзе ўжо бадзяцца па сьвеце. І ніякая сіла мяне тут не ўтрымае.

...Да заканчэньня ліцэя, вяртаньня на радзіму заставаліся лічаныя дні. Становічша на беларускім фронце яшчэ болей ускладнілася. Многія пакідалі Беларусь, адракаліся ад яе. Але Максім заставаўся верны ёй, сваёй Маці-Краіне, нягледзячы на кволае здароўе, якое станавілася ўсё горшым, на сурьёзныя рознагалосьсі ў сям'і. Бацька, стрыечны брат Пётр Гапановіч не падзялялі яго поглядаў у адносінах да Бацькаўшчыну. Яны ня верылі ў яе свабоду і незалежнасьць. Максім-жа казаў:

*Беларусь, твой народ дачакаецца*
*Залацістага, яснага дня.*
*Паглядзі, як усход разгараецца,*
*Сколькі ў хмарках залётных агня.*

Ён скончыў ліцэй і вярнуўся ў Беларусь за некалькі месяцаў да рэвалюцыі і да сьмерці. Нават паветра радзімы, атмасфэра яе прыфрантавых будняў здавалася яму лепей за ўсё. Максім хацеў, як з крыніцы, напіцца водару роднага краю. Бо адчуваў, толькі ён дапаможа яму.

Ён пакідаў Яраслаўль зранку. І калі ў вакне цягніка апошні раз убачыў шырокую роўнядзь шэрай неспакойнай Волгі, калі напасьледак узніклі такія знаёмыя сілуэты цэркваў і званіц, якія здавалася, плылі ў сіняй вышыні, нешта сьціснула яму ў грудзях. І тады ўспомнілася першае адчуваньне горада: ноч, высокі змрочны бераг, на якім чорным зломам падымалася званіца, сьветлыя агеньчыкі Яраслаўля, дзьве-тры чырвоныя плямы — бартавыя ліхтары параходаў, што стаялі на прыстані. Хіба ведаў ён тады, што воддаль гэты горад стане для яго блізкім і дарагім. Максім быццам-бы адчуў, што ўжо ніколі больш ён не ўбачыць Яраславію, зь якой яго столькі зьвязвала: юнацтва, каханьне, «Вянок», нязбыўныя мары і шмат такога, што словамі не перадаць. У думках пранеслася:

*Шмат зазнаў я горычы з нудою,*
*Што шчаміла, мучыла, пякла..*
*Усё ўжо прайшло, сплыло вадою,—*
*Маладосьць не зьнікла, не прайшла!*

І радасьць, як іскарка шчасьця, успыхнула ў ягоным сэрцы. Горад яго маладосьці на разьвітаньні прадстаў ва ўсёй сваёй прыгажосьці. Але Максім пакідаў свой яраслаўскі дом, бо ехаў у Беларусь.

У Менску ён знойдзе прытулак у Зьмітрака Бядулі. Цэлымі днямі будзе працаваць на карысьць радзімы ў камітэце для ўцекачоў. А па вечарах і ноччу пісаць вершы. Адкрытая форма тубэркулёзу не дазволіць яму ўбачыць вясну ў Беларусі. Ён зазірне ў яе блакітныя вочы ў Ялце, куды сябры ўгавораць яго паехаць паправіць здароўе. Але мора не прынясе суцяшэньня. Максім прадчуваў канец. Адзінае, што ён хацеў, дык гэта памерці на радзіме. Але лёс вырашыў інакш: 25 мая 1917 г. яго не стала.

У апошнія дні Максім часта ўспамінаў родную Беларусь, блізкіх яму людзей. Дзеля сьветлага дня роднай Бацькаўшчыны ён, дужа хворы, працягваў працаваць над лямантаром для дзетак-беларусаў, сваім зборнічкам. Але часам прыгадваўся яму белакаменны горад на Волзе, дзе ўпершыню ўбачыў ён Аню, свой «Вянок». І тады ў сэрца наплывала радасьць, зь ёю — лёгкі сум. Тыя пачуцьці грэлі яго ў апошнія цяжкія дні адзіноты. Можа таму, нават паміраючы, бачыў ён сваё жыцьцё ў яркіх колерах, дні маладосьці —у залатых агнях. Ён быў не самотны. І гэтыя пачуцьці падарыла яму яго Яраславія.



*1891 • 1991*






# Багдановічаўскі каляндар

Сьвятлана Анатольева




*Ёсьць на сьвеце такія зоркі,*
*якія ляцяць у далёкую вечнасьць,*
*пакідаючы дзіўны сьвет.*
*Гэты сьвет асьвятляе дарогу Пагоні,*
*ачышчае нашыя душы.*
*Той сьвет ёсьць сама Пагоня*
*і нашае выратаваньне.*
*Ёсьць на сьвеце такія паэты,*
*што пяюць з надтрэснутым сэрцам*
*і апошні свой скарб аддаюць людзям.*
*Гэты скарб — ёсьць нашая праўда,*
*гонар, сумленьне.*
*Той скарб — нашая Вечнасьць.*

А гэтай Зоркай—Паэтам быў, ёсьць і будзе наш Максім Багдановіч. 9 сьнежня яму споўнілася 100 гадоў.

Ясная зорачка ягонага жыцьця скацілася, калі надыйшла яе 25 вясна.

*Але ўспомніць ешчэ зорку сьвет*
*Бо ў сэрцах гарыць яе сьлед.*
*Так свабодна, так ярка пражыць—*
*Лепшай долі німа на зямлі.*
*Ўсё кругом на мамэнт асьвяціць*
*І пагаснуць у цёмнай імглі.*
*Ўсё зьнікае, праходзіць, як дым,*
*Сьветлы-ж сьлед будзе вечна жывым.*

Гэтыя словы сказаў Максім пра С. Палуяна. Гэта самае мы можам сказаць і аб Максіме Багдановічу. Сёньня мы сьвяткуем Багдановічаўскі юбілей. Аб тым, як адбываўся ён, наш каляндар.



## Ялта

*Ён марыў жыць сярод бяроз,*
*А над магілай — кіпарысы.*
*У сьмерці крымскія абрысы,—*
*Ён марыў жыць сярод бяроз.*
*Застылі ў смутку твару рысы,*
*Як жорстка насьмяяўся лёс:*
*Ён марыў жыць сярод бяроз,*
*А над магілай —кіпарысы.*
*(«Трыялет» Сяргей Кавалёў)*

У краіне сьветлай, ля сіняй бухты, на Лівадзійскіх могілках сярод кіпарысаў стаіць сьціплы помнік. На ім словы:

*Хоць зернейкі засохшымі былі,*
*Усё-ж такі жыцьцёвая іх сіла*
*Збудзілася і буйна ўскаласіла*
*Парой вясеньняй збожжа на ральлі.*

Тут пакоіцца прах Максіма Багдановіча. Душа-ж яго з намі.

Максімава слова гучала ў цёплыя травеньскія дні над магілай паэта. Упершыню музыка яго паэзіі зьвінела ў Ялце, дзе ён, адзінокі, паміраў і дзе сёньня жыве некалькі тысяч беларусаў. Беларуская песьня гучала і на пляцоўках горада, ў канцэртнай залі «Юбілейная», у тэатры імя Чэхава, у санаторыях. Выступалі ансамбль народнай музыкі «Сьвята», ансамбль «Сябры», пісьменьнікі, артысты. Спэцыяльная выстаўка, прысьвечаная нашаму Максіму, адбылася ў музеі «Культура Ялты».



## Ніжні Ноўгарад

У Ніжнім Ноўгарадзе паэт пражыў 12 гадоў. Тут ён напісаў свае першыя вершы, ад цёткі Машы захапіўся беларускай песьняй. У Ніжагародзкай гімназіі Максім арганізаваў першы ў жыцьці бунт супроць існуючых парадкаў.

11 лістапада ў Ніжнім Ноўгарадзе зьявілася вуліца імя М.Багдановіча. А

на гарадзкіх пляцоўках, у палацах культуры, у драматычным тэатры імя М.Горкага гучала слова Максіма і слова аб ім. Незабыўную сустрэчу з паэзіяй клясыка нашай літаратуры падарыла жыхарам гэтага волжскага гораду беларуская дэлегацыя.



## Яраслаўль.

Максім пакідаў Яраславію на досьвітку. Ён ехаў у Беларусь. Ад'язджаў з радасьцю і сумам на сэрцы, бо зь Яраслаўлем яго столькі зьвязвала. Пэўна, тады ён ня мог і ўявіць, што тут яго не забудуць. Што ў горадзе яго юнацтва ў 1956 г. будзе ўстаноўлена мемарыяльная дошка, першая ў яго гонар, якая паведаміць усім людзям, што ў былой мужчынскай гімназіі з 1908 па 1911 год вучыўся вядомы беларускі паэт Максім Багдановіч.

Максім ня мог нават памысьліць аб тым, што тут, на радзіме Някрасава і Собінава зьявіцца ў 1981 годзе першая вуліца Максіма Багдановіча. Не, пэўна, ён не думаў аб гэтым. А адзіны на сёньня мемарыяльны музэй Максіма за межамі Бацькаўшчыны, разьмешчаны там, дзе тварыўся яго бессьмяротны «Вянок» і там, дзе «Вянок» быў упершыню ім убачаны, — хіба гэта ня казка? Музей быў адчынены 18 лістапада, і на яго адкрыцьці яраслаўцы даведаліся, што хутка ў іх горадзе, дзякуючы менскаму клюбу «Спадчына», скульптару Сяргею Вакару, беларускай эміграцыі Амэрыкі будзе ўстаноўлены помнік Максіму Багдановічу, першы помнік беларускаму паэту за межамі Бацькаўшчыны.

Хіба думаў Максім, што ім стануць ганарыцца ня толькі беларусы, але і яраслаўцы?.. Але ён пакінуў свой яраслаўскі дом. Максім ад'ехаў у Беларусь.



## Беларусь

*Ён нядоўга гасьціў на радзімай зямлі,*
*Але з тое пары і да сёньня*
*Усё цьвітуць васількі, што ў радку зацьвілі.*
*Усё лятуць і лятуць тыя коні.*
*Яго зорка нязгасна над краем гарыць.*
*Бо іў сэрцах сьвятло запаліла.*
*Але гэтак ахвярна радзіму любіць...*
*Брацьця, сёстры! Ці хопіць нам сілы?*

*(«М.Багдановічу». Сьвятлана Багданкевіч)*

Упершыню ў кожным горадзе, у кожнай вёсачцы, у школах і тэхнікумах 1 верасьня прайшлі Багдановічавы вурокі, а ў царвке на с.Краснае служылася пані хіда ў гонар Максіма. У Ракуцёўшчыне ладзілася Ўсебеларускае сьвята паэзіі.

У Горадне адбылося адкрыцьцё новай экспазыцыі Дома-музэя паэта.

19 верасьня над парлямэнтам Рэспублікі Беларусь быў ўзьняты яе дзяржаўны герб, васпетая Максімам Пагоня, сымбаль годнасьці, мужнасьці і незалежнасьці беларускага народу.

У сьнежні ў Менску, у Траецкім прадмесьці, адбылося адкрыцьцё асноўнай часткі экспазыцыі музэя М.Багдановіча. А ўчарашняя вуліца Горкага стала насіць імя нашага беларускага песьняра.

6 сьнежня менчукі змаглі ўбачыць вобраз Багдановіча, «красу, і сьветласьць, і прастор» ягонай творчасьці на мастацкай выстаўцы ў гонар 100-годзьдзя паэта.

9 сьнежня ў АН Беларусі адкрылася канфэрэнцыя вучоных-багдановічазнаўцаў, якая дапамагла крышку прыблізіцца да таямніцы Багдановічаўскай творчасьці.

Заключным акордам сьвята стаў урачысты вечар, які адбыўся у Дзяржаўным акадэмічным Вялікім тэатры опэры і балета ў Менску. Усіх яго ўдзельнікаў і жыхароў Беларусі прывітаў Генеральны дырэктар ЮНЕСКА Фэдэрык Маёр. І зноў гучала бессьмяротнае слова Максіма.



## *Кліўленд*

Акадэмія, прысьвечаная памяці Максіма Багдановіча, адбылася ў культурна-асьветніцкім цэнтры «Полацак» 26 травеня. У малай залі экспанаваліся дзьве выстаўкі:«Вянок» Максіма Багдановіча» з твораў Я. Ціхановіча, А.Лапіцкай, Г.Грака і «Максімава Яраславія» з фотаархіву С.Белай. Былі зачытаныя тэлеграмы, якія даслалі з нагоды акадэміі Згуртаваньне беларусаў сьвету «Бацькаўшчына», Беларускі ПЭН-цэнтр, калектыў газэты «Набат», сябры менскага клюба «Спадчына».

У сваім дакладзе вядучая Сьвятлана Белая выкарыстала фрагменты з рукапісу кнігі «Максімава Яраславія», а таксама запісы песьняў, у выкананьні вядомых на эміграцыі хораў. Лідзія Лазар—Ханенка прачытала па-ангельску вершы Максіма Багдановіча. На заканчэньні акадэміі ўсім яе ўдзельнікам былі дараваны памятныя граматы ў гонар 100-годзьдзя з дня нараджэньня М. Багдановіча, выдадзеныя менскім клюбам «Спадчына».

## *Чыкага*

20 кастрычніка ў царкве сьв.Юрыя адбылася акадэмія ў гонар 100-годзьдзя з часу нараджэньня Максіма Багдановіча. На пачатку акадэміі былі зачытаны тэлеграмы, якія даслалі да ўдзельнікаў акадэміі часопіс «Полацак» і менскі клюб «Спадчына».

Дакладчык акадэміі Мікалай Латушкін пазнаёміў прысутных з асноўнымі этапамі жыцьця і творчасьці выдатнага клясіка беларускай літаратуры Максіма Багдановіча. Ён-жа прачытаў некалькі вершаў паэта, сярод якіх была любімая на эміграцыі «Пагоня».

У час акадэміі ахвярадаўцам на помнік Багдановіча ў Яраслаўлі былі ўручаны ганаровыя граматы клюба«Спадчына»



## *Нью-Ёрк, ААН*

Год назад у залі бібліятэкі ААН сабраліся людзі, каб адзначыць 500-годзьдзе выдатнага сына зямлі Беларускай першадрукара Скарыны. Сёлета 4 лістапада прыйшлі сюды людзі, каб пакланіцца памяці яшчэ аднога пачынальніка. Пачынальніка беларускай крытыкі, паэта, які прынёс беларускую літаратуру ў дар усяму сьвету.

—Колькі будзе існаваць жыцьцё на зямлі, столькі сэрца кожнага беларуса будзе саграваць імя Максіма Багдановіча,—сказаў на адкрыцьці вечара міністр замежных справаў Беларусі П.Краўчанка.

*—Усяго 25 сьвечак адпалала на зямным бяседным стале М.Багдановіча,— адзначыў у сваей прамове шэф беларускай місіі пры ААН паэт Генадзь Бураўкін. — Калі ў маі 1917 г. пагасла апошняя тоненькая і пахілая, побач не было ні свая коў, ні сяброў, і выпадковыя людзі, якія паклалі ў камяністую крымскую зямлю высушанае туберкулёзам маладое цела, не здагадваліся нават, што хавалі аднаго з выдатнейшых беларускіх паэтаў, аднаго з самых любімых сыноў нацыі.*

*Максім Багдановіч марыў, што беларуская культура панясе, нарэшце, свой дар усяму сьвету. Час гэты настаў. Мы з паклонам перадаём людству свае духоўныя набыткі— і сярод іх чыстую Максімаву песьню.*

І чыстая, прыгожая песьня Максіма зазьвінела у залі, якая чула песьні найлепшых сыноў і дачок Зямлі. Песьня гучала ў выкананьні ансамбля «Песьняры», які падрыхтаваў спэцыяльную праграму для гэтага вечара-памяці. Гучалі «Ой, чаму я стаў паэтам», «У Максіма на кашулі», «Зорка Вэнера», «Лявоніха», «Вераніка» й інш. І шырока, павольна у будыку ААН, над якім лунае бел-чырвона-белы сьцяг, лілася старадаўня і вечна маладая багдановічаўская «Пагоня».


М. Багдановіч
Спеў залунаў —
і сама адгукнулася чула на ліры
Звонам ціхуткім струна...
Ці адзавецеся Вы?

# Спадар Я.Станкевіч

М.Дубок



26 лістапада споўнілася 100 год з часу нараджэньня дзеяча, які быў супрацоўнікам «Нашай нівы», дэлегатам Першага Усебеларускага Кангрэсу, сябрам Беларускай Віленскай Рады, Летувіскае Тарыбы (Рады) (1918 г.), паслом у польскі сойм (1928-1930), спадара Я. Станкевіча.

Грамадзкай працай, а менавіта распаўсюджваньнем газэты «Наша ніва» і беларускіх кніг Янка Станкевіч пачаў займацца ў гады вучобы ў гарадзкім вучылішчы ў Ашмянах. У 1909 г. пасьля заканчэньня вучобы ён уключаецца ў працу па арганізацыі беларускага школьніцтва ў Ашмянскім і Вілейскім паветах. Ластоўскі, Талочка, браты Луцкевічы й іншыя парадзілі яму атрымаць вышэйшую асьвету. У лютым 1922 г. Янка Станкевіч нелегальна перайшоў летувіска-польскую мяжу. З дапамогай Ластоўскага ў Коўні ён атрымаў пашпарт, праз Нямеччыну прыехаў у Прагу. У 1926 г. ён скончыў унівэрсытэцкія студыі і напісаў доктарскую дысэртацыю аб Аль-Кітабу, які быў знойдзены Іванам Луцкевічам. Пасьля заканчэньня студыяў Я.Станкевіч вярнуўся ў Вільню. Апрача палітычнай і грамадзкай дзейнасьці займаецца навуковай і асьветніцкай. Ён выкладае беларускую мову ў праваслаўнай Віленскай духоўнай сэмінарыі, чытае лекцыі ў духоўнай праваслаўнай акадэміі пры Варшаўскім ўнівэрсытэце. Арганізуе курсы беларускае мовы ў Віленскім унівэрсытэце. Свае дасьледваньні па беларускай мове друкуе пераважна ў часопісе «Родная мова», што выдаваўся ў Вільні.

Прыехаўшы ў 1949 г. ў ЗША, закладае Крывіцкае Навуковае Таварыства і выдае часопіс «Веда». Друкуе шмат паасобных моваведных і гістарычных выданьняў і папулярных брашураў у беларускай і ангельскай мовах: «Мова рукапісу Аль-Кітаб», «Савецкае хвальшаваньне гісторыі Беларусі», «Нашаніўства і бальшавікі» ды інш. У 1973 г. Янка Станкевіч пераклаў па-беларуску Біблію, у 1989 г. выйшаў ягоны «Белорусско-русский (Великолитовско-русский словарь», які ён так і не пабачыў надрукаваным. У ліпені 1976 г. ягонае сэрца перастала біцца.

Ад юнацких гадоў і да апошніх дзён жыцьця Янка Станкевіч быў шчырым патрыётам за беларусыку. Ды, як і ўсе неардынарныя асобы, быў ён супярэчлівым, не заўсёды зразуметы суайчыньнікамі. Але як бы то ні было, дзякуючы Янку Станкевічу назаўсёды ўвайшлі ў нашую мову «спадар, спадарыня, спадарычня» — словы, знойдзеныя спадаром Станкевічам ў старадаўніх дакумэнтах XYI—XYII стагодзьдзяў.

# Міхал Забэйда — Суміцкі: эміgranцкі лёс, служэньне мастацтву і гуманізму.

Леў Мірачыцкі

*Ты запеў нам песьню аб барох сасновых.*
*аб пахілых ў полі, сумных дзесяткох,*
*Аб цудоўных межах зь цьветам васільковым.*
*што здаюцца часта на чужыне ў снох...*
*Аб радзімай вёсцы запяяў нам песьню,*
*матчыную песьню запяяў ня раз.*
*І аб тым, як птушкі кажнае прадвесьне*
*прывітаньні з сэрца там нясуць ад нас.*
*Ларыса Геніюш (Забэйдзе-Суміцкаму)*



Хвалі ўцекачоў першай сусьветнай вайны занесьлі яго, чатырнаццацігадовага сэмінарыста, у глыбіню Расейскай імпэрыі, а затым у горад Зарбін. Праца настаўнікам, але талент музыкі і сьпевака не даваў супакою, і юнак шукаў выйсьце з складаных перэпетыяў жыцьця. Працуючы ў школе, ён вучыўся на экана мічным аддзяленьні ўнівэрсытэта і працягваў заняткі па вакалу ў прафэсара Юліі Плотніцкай, а курс гармоніі прахо-дзіў у піяніста Мікалая Меттэра.

У 1929 г., закончыўшы Харбіньскі ўні вэрсытэт, Забэйдзе-Суміцкаму пашчасьціла выступіць на сцэне мясцовага опэрнага тэатра ў ролі Ленскага ў опэры «Аўген Анегін» Чайкоўскага. Дэбют прай шоў з посьпехам, і яго залічылі ў трупу опэрнага калектыву. За тры няпоўныя гады наш зямляк выканаў пятнаццаць га лоўных партыяў: Уладзіміра з опэры «Князь Ігар» А. Барадзіна, цара Берэндзея зь «Сьнягурачкі» М.Рымскага-Корсакава, князя з «Русалкі» А.Даргамыжскага, Уладзіміра з «Чарадзейкі» П.Чайкоўскага, Лыкава з «Царскай нявесты» М.Рымскага-Корсакава. Сінанадала з «Дэмана» А.Рубінштэйна, Фаўста з аднайменнай опэры Гуно, Альфрэда з «Травіяты» і герцага з «Рыгалеты» Вэрдзі, Альмавіва зь «Севільскага цырульніка» Расіні, Пінкертона з «Мадам Батэрфляй» і Рудольфа з «Багэмы» Пучыні й іншыя.

Успамінаючы пра гэты пэрыяд эмігранцкага жыцьця ў Харбіне, Забэйда-Суміцкі пісаў, што яго выступленьні ў опэрным тэатры мелі посьпех, і што ён пачынаў верыць у сябе, яму хацелася і надалей удасканальвацца ў сьпевах. Увесь гэты час ён жыў сьціпла, «зьбіраў грошы для паездкі ў Італію, аб якой марыць кожны добры сьпявак».

У 1932 годзе Міхал Забэйда-Суміцкі прыехаў у Мілан. Тут ён вучыцца ў вядомага сьпевака і прафэсара сьпеву Міланскай кансэрваторыі Фернанда Карпі, шмат працуе над сабою. Усё гэта дапамагло яму ўзьняць сваё выканаўчае майстэрства да ўзроўню выдатных сьпевакоў сьвету. Міхал Забэйда-Суміцкі становіцца салістам міланскай опэры «Ля Скаля». На італьянскай мове ён сьпяваў шматлікія партыі ў опэрных спэктаклях «Фаўст», «Травіята», «Рыгалета», «Севільскі цырульнік». І кожны раз яму спадарожнічаў посьпех. Яго запрашаюць выступаць у Міланскай кансэрваторыі імя Джузепэ Вэрдзі, удзельнічаць у канцэртных турнэ па краіне. Італьянскія знаўцы мастацтва бачаць у нашым земляку пяшчотную душу «славянскага мроючага паэта». «Яго тонкая інтэрпрэтацыя захапляе слухачоў. Яго голас—гэта дасканалы інструмэнт, які здольны перадаць усе пачуцьці, зьмешчаныя ў песьні, нават і тады, калі сьпявае на чужой мове.... Гэта пацьвердзіла публіка сваімі апладысмэнтамі, дамагаючыся паўтарэньня»,— пісала «Курыерэ дзі Савона» ў кастрычніку 1934 года. Другая газэта «Ль—Ордзінэ (26 кастрычніка 1934 года) падкрэсьлівала: «Міхал Забэйда — тэнар надзвычайнай якасьці, артыст высокай культуры, голас мяккі, гнуткі, падобны голасу свайго суайчыньніка Собінава, інтэрпрэтаваў з выключнай чульлівасьцю тонкія кампазыцыі, выклікаўшы захапленьне ва ўсіх слухачоў.»

Славу нашаму земляку прынёс і ўдзел у музычным фэстывалі ў Варэзе, дзе ён выступіў з вялікай праграмай, сьпяваючы ў арыгінале творы расейскіх, францускіх, італьянскіх, гішпанскіх і іншых кампазытараў заходнеэўрапейскіх народаў. Італьянская музычная крытыка ў акадэмічным часопісе «Джорнале дэль Артэ» прарочыла Забэйдзе-Суміцкаму ў мастацтве вялікую будучыню. Яго талент яна ставіла ў адзін шэраг з такімі карыфеямі сьпеву, як Ціта Скіпа, Леанід Собінаў і іншымі славутымі артыстамі.

У 1935 г. Міхаіл Забэйда—Суміцкі, заключыўшы кантракт з Пазнаньскай опэрай, пераязджае ў Польшу. Тут ён пашырыў свой рэпертуар, удзельнічаў у галоўных ролях у опэрах «Галька» Манюшкі, «Унос з Сэраю» Моцарта, «Юлі Цэзар» Гендэля, «Барыс Гадуноў» М. Мусаргскага. У наступным годзе ён становіцца салістам Варшаўскага радыё. Здольнасьці сьпевака надзвычай высока ацэньвала польская прэса. Яна асабліва шмат увагі ўдзяляла выкананьню ім твораў італьянскіх кампазытараў. Так, варшаўскі «Наш пшэглёнд» (1937, 1 ліпеня) пісаў: «Сапраўднай радасьцю ў аматараў «бэль канта» былі песьні італьянскіх майстраў ХУІІ і ХУІІІ стст. у інтэрпрытацыі артыста Міхала Забэйды — Суміцкага.» Далей адзначалася яго ўмелае валоданьне голасам, падкрэсьлівалася, што таленавіты сьпявак зьяўляецца вакалістам вышэйшай пробы, што кожная песьня ў яго выкананьні прыносіць слухачу сапраўднае эстэтычнае задавальненьне.

Рэпертуар Забэйды—Суміцкага, зразумела, не абмяжоўваўся творамі італьянскіх кампазытараў, а ахопліваў песенныя і музычныя скарбы многіх народаў сьвету. Шмат прыемных хвілін, сапраўднай радасьці прыносілі слухачам яго канцэртныя выступленьні на Польскім радыё. «Такога сьпевака, такога выявіцеля народнай душы, асабліва ў народных песьнях, — усё роўна польскіх ці беларускіх, — у Польшчы нам не даводзілася чуць. Нават праслаўлены Кецура не перадасьць і ня здолее так далікатна выявіць усёй глыбіні польскага народнага музычнага духу, як гэта ўмее зрабіць М.Забэйда-Суміцкі з польскімі народнымі песьнямі. Калі ў Кепуры

стыхія голасу забірае душу, зводзіць усё да нямецкай халоднасьці, то ў Забэйды - Суміцкага наадварот — голас разам з словам служыць для выяўленьня ўсіх тых адценьняў, нават самых далікатных і тонкіх, у перажываньнях і настроях, якія захаваныя ў песьнях», — з гордасьцю гаварыў пра слыннага земляка Рыгор Шырма, вядомы фальклярыст, кіраўнік тагачаснага хору Беларускага Саюза студэнтаў у Вільні. (Калосьсе, кн. 2, 1937, с.119) Ён вельмі радаваўся, што Забэйда-Суміцкі патрапіў вывесьці беларускую народную песьню ў шырокі сьвет, што яму належыць чэсьць у перадачы гэтых песен праз грамафонныя пліты для шырокага карыстаньня ў краі і за мяжой.

Выступленьні Забэйды — Суміцкага на Польскім радыё ў Варшаве ў другой палове 30-х г. перадаваліся для краёвага слухача і трансліраваліся ў краіны Заходняй Эўропы, Паўночнай і Лацінскай Амэрыкі. Ужо тады, там апынулася шмат выхадцаў з славянскіх краін. Таму ім яго выступленьні былі асабліва прыемнымі і дарагімі, як пазьней яны самі пра гэта расказвалі.

Апрача польскіх народных песень голас артыста даносіў да слухачоў чароўнасьць калядных і велікодных песен усіх славянскіх народаў. Сьпявак імкнуўся паказаць ня толькі лірычнасьць песень, іх мілагучнасьць, народную красу, але і глыбокі сэнс. Аднойчы, мабыць, прадчуваючы вялікія выпрабаваньні славянскіх народаў, зь яго вуснаў зьляцелі словы:

*Гэй, славяне, яшчэ наша мова вольна льецца.*

*Пакуль наша сэрца шчыра за народ свой бьецца...*

Гэта былі радкі з народнай песьні, гімна паўднёвых славян. Плянавалася і турнэ па краінах Заходняй Эўропы й Амэрыкі. Аднак ажыцьцявіцца плянам перашкодзіла вайна. У 1940 г. Міхал Забэйда-Суміцкі пераязджае ў чэшскую Прагу.

Пражскі пэрыяд жыцьця, артыстычнай, пэдагагічнай дзейнасьці Забэйды-Суміцкага працяглы. Тут ён стаў артыстам пражскага нацыянальнага тэатра. Мастацкая яго дзейнасьць захапіла чэхаў. «Народні стршэд» (сьнежань 1940 г.) пісаў, што Міхал Забэйда—Суміцкі «паказаў сябе сьпеваком сусьветнага маштабу. Ён валодае сакавітым гнуткім голасам зь віртуёзным майстэрствам... Найбольшага посьпеху, натуральна, дасягнуў у беспадобна дасканалым выкананьні украінскіх і беларускіх песен, цудоўным харством якіх здолеў захапіць прыдзірлівага слухача. Забэйда становіцца, такім чынам, сапраўдным энтузіястам, які прапагандуе скарбы народнай творчасьці зь вялікім посьпехам». Нашага земляка хвалілі й іншыя чэшскія пэрыядычныя выданьні. За канцэртныя выступленьні яго абвінавацілі ў Берліне, што ён займаецца прапагандай славянства. Прыходзілася апраўдвацца, што праграммы канцэртных выступленьняў дазволеныя цэнзурай.

Жывучы ў Чэхаславаччыне ў пасьляваенны час наш зямляк шмат зрабіў для прапаганды песенных скарбаў беларускага народу. І вось раптоўна, у пачатку студзеня 1982 г. ад вучаніцы Міхала Забэйды—Суміцкага Надзі Кастэцкай, ягонай зямлячкі, атрымоўваю сумную вестку аб раптоўнай сьмерці сьпевака. Яго сэрца перастала біцца 21 сьнежня 1981 г. (Нарадзіўся ён 14 чэрвеня 1900) Нам засталіся яго цудоўныя песьні... Будзем-жа шанаваць іх!



# Эмблема на шчыце герба «Пагоня»

Міхась Белямук

Сафія Кіеўская пабудаваная ў 1037 г. Навуковае дасьледваньне графіці Сафійскага сабору было пачатае В. Шчэпкіным у 1902 г. У 1935-1941 гг. пачалася рэстаўрацыя Міхайлаўскай й Юр'еўскай прыбудоваў, тады-ж былі выяўленыя пад тынкоўкай і фарбай старажытныя фрэскі з XI — XII стст., на якіх або паблізу іх былі выдрапаныя надпісы— графіці. Большасьць графіці належыць звыклым гараджанам розных гарадоў. У Сафійскім саборы ў Кіеве знойдзеныя графіці палачан. У бальшыні іх пакінулі асобы, якія прыйшлі памаліцца. Яны вельмі кароткага зьместу: «Гоcпадзі, памажы рабу або рабе...» «Госпадзі, грэх зрабіў я...» «Сьвяты Сьцяпан, малі Бога за...» «Сьвяты Ануфры, накіруй мяне на праўдзівы шлях», «Памажы мне, Госпадзі...» Сустракаюцца графіці, што пачынаюцца з напісаньня крыжа, а тады просьбы-малітвы.

Намаляваныя крыжы і графіці дапамагаюць зразумець, якая форма крыжа бытавала ў XI-XIУ стст. У Сафіі Кіеўскай сустракаюцца крыжы грэцкія, што маюць усе канцы роўнай даўжыні і крыжы патрыяршыя зь верхняй папярэчкай ротшай ад ніжняй. Палеаграфічныя асаблівасьці напісаньня некаторых літараў крыжа і графіто, знойдзеных на ўсходняй сьцяне налева ад алтарнай абсыды, даюць падставу аднесьці іх да сярэдзіны XI ст. (**40**, б.52-53)



Наступны крыж і графіці знаходзяцца ў паўдзённай галерэі на стаўбе, на якім старадаўняя фрэска сьв. Ануфрыя. Але крыж быў намаляваны раней, таму яго можна аднесьці да пачатка XIII ст.(**40**. 60-70).

На хорах сабору графіто «Господи помози рабе своей Агафии» і крыж. Калі Агафія паходзіла з княжага роду, графіто і крыж з XI — XII стст., бо ў XIII ст. доступ на жаночыя хоры быў больш ліберальны. (**40**. б. 100-101)





На захадняй сьцяне зьлева алтарнай абсыды цікавы малюнак — прэстол з патрыяршым крыжам, паабапал яго сьвечкі. У ніжняй часцы графіто «Господи помилуй, помози, помяни Данила». Направа ад прэстола другое графіто: «Олтар пламен, а церков ледяна, олтар погаснеть и церков стаеть». Б.Рыбакоў тлумачыць, што гутарка пра Вадохрышча і запіс зроблены Данілам, хіратонія яго адбылася на Вадохрышча ў 1114 г. (**40**, б.18-119, **41**, б.22) (Гл. мал. на ст. 38.)

На стаўбу на хорах малюнак патрыяршага крыжа і графіто: «Жадко писал крестъ». Датуюцца яны XII ст.(**40**, б. 111).



На стаўбу на хорах патрыяршы крыж на Галгофе, зь яе падымаюцца лісьцё аканта, датуецца XII—XIII стст.(**40**, б. 112)



У прыбудаванай часцы да Сафійскага сабора ў гонар Антонія і Тэадосія ўся паўночная сьцяна сьпісаная. Крыж быў намаляваны раней, а надпісы зробленыя пазьней, яны пачатку XIIIст (**42**, б.95-96)






У прыбудове ў гонар Якіма і Ганны на паўдзённай сьцяне патрыяршы крыж на якары, а побач: «Господи, помози рабом своим Петрыле и Варнаве». Такія графіці, у якіх два імя, успамінюцца, сустракаюцца рэдка. Малюнак крыжа акуратны і вельмі цікавы. Крыж і графіто — не пазьней пачатка XIII ст. (**42**, 119).

На фрэсцы апостала Паўла малюнак патрыяршага крыжа з лістамі аканта. Такая форма называецца квітнеючы крыж, і яго можна датаваць XIII ст. У Міхайлаўскай прыбудове на хорах, дзе фрэска «Спатканьне Абрагама з трыма падарожнікамі», намаляваны патрыяршы квітнеючы крыж. Абодва крыжы вельмі падобныя па выкананьню з XII-XIII стст. (**42**, 121-122)





Там-жа на хорах, на паўдзённа-заходнім стаўбу даволі груба выдрапаны патрыаршы крыж без графіто, умоўна можна датаваць малюнак крыжа XII — XIУ стст.(**42**. б.122)

У Юр'еўскай прыбудове на іконе нераспознанай сьвятой намаляваны патрыаршы квітнеючы крыж і графіто, датуецца XII— XIII стст. (**42**.б.123).



У прыбудове, прысьвечанай архангелу Міхаілу, на паўночна—захаднім стаў



бу малюнак патрыаршага крыжа маласустраканага.Яго ная ніжняя папярэчка мае завіткі. Крыж на Галгофе,да якой дамаляваны ўнізе трохкутнік. Дата маляванага крыжа XII — XIУ ст.(**42.** б.124)

У абсыдзе прыбудовы архангелу Міхаілу намаляваны патрыяршы крыж на прыступковай Га лгофе. Побач крыжа малюнкі княжых знакаў, невядомых сучасным дасьледчыкам. Яны, мажліва, зробленыя адной і той-жа асобай у XIII-XIУ стст. (**42**. б.123)





Там-жа, але на заходнім стаўбу Міхайлаўскай прыбудовы, на якім ікона сьв. Сымона, выдрапаны малюнак патрыаршага крыжа, які ўпрыгожаны лістом аканта. Лісьцё даходзяць да папярэчак. Крыж, мажліва, з XIII або XIУ ст. (**42**,б.123).

Сафійскі сабор у Ноўгарадзе быў пабудаваны ў 1045-1050 гг. Падчас рэстаўрацыі сабору архітэктарам В.Сусла- вым у пачатку ХХ-га ст., калі зьнялі напластаваньні тынкоўкі, на арыгінальнай абмазцы былі выяўленыя графіці і крыжы XI--XIУ стст.







І.Шляпкін зацікавіўся і прыехаў у Ноўгарад. Ён на сьценах сабору адшукаў 37 крыжы, якія былі чатырохканцовыя, шасьціканцовыя і 3 крыжы пяціканцовыя, у якіх верхняя папярэчка ляжала на вертыкальным стаўбу на самым версе. Дасьледчык разьдзяліў крыжы на групы і стараўся знайсьці аналягічныя крыжы ў расейскай імпэрыі. Пасьля пошуў І. Шляпкін прыйшоў да высновы: «...вось миконечных крестов вовсе не встречаем, исключение: крест преподобного Варлаама и антиминс 1144 г. —восьмиконечные, причем первый может быть и переделан, а последний легко можно было подрисовать». (**43**, б.71-72)



Падчас рэстаўрацыі сабору пасьля вайны былі знойдзеныя графіці і крыжы. На паўночна-усходнім стаўбу выдрапаны малюнак Сафіі Ноўгарадзкай, а побач зьмешчаны патрыяршы крыж. На паўночнай сьцяне, налева ад іконы апостала Паўла два патрыяршыя крыжы, верхні крыж на Галгофе. Нікіціна датуе крыжы XII-XIУ стст (**44**, б. 221, 231- 232)

## Бібліяграфія

40. Высоцкий С.А. Древерусские надписи Софии Киевской.К. 1966.

41. Рыбаков Б.А. Русские датированные надписи XI—XIУвв. САИ-ЕI-44, М, 1964.

42. Высоцкий С.А. Средневековые надписи Софии Киевской. К. 1976.

43 Шляпкин И. Древние русские кресты. Записки ОРСА, т. УII, №2, СПб. 1907.

44. Никитина Ю.И. Рисунки-граффити из Софии Новгородской. Советская ар--хеология, М. 1990, № 3

# Аднойчы ў Рыме

Кастусь Мерляк



Кастусь Мерляк, 1947 г.

Прайшло каля трох месяцаў, аж Кастусь атрымоўвае ад Пятроўскага дзесятку даляраў, запрошаньне прыехаць у Амэрыку (афідэвіт) і білет на параплаў з адкрытай датай.

Толькі у 1955 г., пасьля дзевяці гадоў, Кастусь даведаўся, што ягоны ліст і факт, што шэф паліцыі гораду Вільмінгтон асабіста прывёз ліст ім ў дом, зрабілі вялікае ўражаньне на Пятроўскіх і яго суседзяў.

Маючы ўсе патрэбныя паперы на выезд у ЗША, Кастусь паехаў у Амэрыканскі Кансулят у Наполі, каб дастаць візу. У Кансуляце яго зарэгістравалі на эміграцыю ў ЗША, але сказалі, што ён павінен чакаць каля пяці гадоў на сваю чаргу, бо настолькі польская квота была ўжо перапоўненая. Для Кастуся гэта было вялікае расчараваньне.

У чэрвені 1947 г. Кастусь атрымаў ад свайго дзядзькі Юрыя Мерляка афіцыяльнае запрошаньне ў Бразылію. Але Бразылія не імпанавала ды выехаць у той час ня было так лёгка дзеля недахопу транспарта.

У адзін прыгожы падвячорак, у касьцюме, купленым у лягеры, бяз гальштука, паволі ішоў Кастусь да Фантана Трэві, праз пляц Барбэрыні, уздоўж віія Вэнэто, праз браму ўвайшоў у парк Вільля Боргэзэ. Там была цішыня й там-сям можна было бачыць адзінокія асобы, задуменыя як і ён, паволі варушыліся між векавымі дрэвамі. Кастуся ня раз падзіўляў вечны горад Рым, цудам захованы ад ваеннага зьнішчэньня. Проста не наглядзецца на манумэнтальныя працы геніяльных мастакоў і архітэктараў, якіх помнікі й будовы пратрывалі цэлыя вякі. Ён ніколі ня думаў, ніколі ня мог адважыцца нават марыць аб тым, што ён зможа калі-небудзь пабачыць слаўны Рым. І вось ён тутака ўсё бачыць. Жыцьцёвы лёс, ня пытаючыся, прывёў яго сюды. І думкі яго пайшлі гэтым самым шляхам назад, дадому, да свае вёскі, да родных і прыяцеляў, якія засталіся там у цяжкіх умовах жыцьця, а можа хто зь іх і ня жыве? Задуменны, нават і не заўважыў, што падыйшоў да берагу вэранды й затрымаўся якраз там, дзе калісьці стаяў Напалеон, залажыўшы руку за пазуху, ды пазіраў уздоўж шырокае віяле Консільяціонэ, якая вяла на пляц Ватыканы й упіралася у калюмнады Базылікі сьв. Пятра.

—Цыгарэттэ сінёрэ!— Гэткімі словамі, прапануючы папяросы, перарваў думкі стары італьянец. Кастусь проста машынальна, выняў астатнія дзесяць ліраў і купіў адну цыгарэту «Камэдзь» ды закурыў яе. Ён пачуў прыемны запах, стала нейк лёгка на душы й пачуўся задаволеным, шчасьлівейшым, нават забыўся, што ён быў галодным, бо нічога ня еў ад раньня. Ад гэтага дня ён і пачаў курыць.





# Наш лягер



Юзэфа Найдзюк

Лягер пераселеных асобаў называлі «ДП» лягерам. Жылі мы ў Віндышбэргдорфу да чэрвеня 1949 г., але амэрыканскія ўрадаўцы пастанавілі ўсіх беларусаў крывічоў Баварыі зьвесьці ў Розангайм. Назоў гэтага гораду можна перакласьці як Бацькаўшчына розаў. Запраўды назоў быў удалым, толькі апрача розаў расьлі тут і іншыя кветкі, дрэвы —бэз, акацыя, чаромха, ясьмін. Наш лягер знаходзіўся за горадам, у былых вайсковых нямецкіх казармах. Двухпавярховыя будынкі разьмяшчаліся так, што ўтвараўся ў цэнтры вялікі квадрат з высокім стаўбом, над якім лунаў наш бел-чырвона-белы сьцяг. У розангаймскім лягеры жылі ня толькі беларусы, былі тут прадстаўнікі іншых нацыянальнасьцей. Але нас было найболей, здаецца, дзьве трэціх, таму кіраўніцтва лягера было беларускае.

У лягеры была пачатковая школка з настаўнікамі Міколам Корбутам і Сафіяй Дубягай, якая была таксама адказная за дзіцячы садок, дзе працавалі менскія балярыны Вілачка і Верачка й я. Беларускую гімназыю імя Я.Купалы ўзначальваў Віціцкі. Сьвецкім і царкоўным хорам кіраваў М.Равенскі. Танцавальна-балетны гурток вялі тыя-ж балетніцы Верачка і Вілачка. Драматычным гуртком кіраваў вельмі здольны настаўнік гісторыі Г.Паланевіч, спартовым гуртком скаўцкае моладзі — І. Муха, а скаўтамі— Я.Раковіч. Яны ад моладзі вымагалі шмат, таму мы часамі крыўдавалі на іх. Аднак цешыліся і крыўды забывалі, калі ў спаборніцтвах перамагалі скаўтаў іншых нацыянальнасьцей.

Я належыла да драматычнага гуртка Ставілі мы «Афэльку» (яшчэ ў Міхэльсдорфе), дзе я грала галоўную ролю, шмат розных вадэвіляў, але ніколі не за будзеца мне пастаноўка купалаўскае «Паўлінкі». Я грала ролю Альжбеты, ролю Сьцяпана — Васіль Стома, Ірэна Жылінская—Цупрык была Паўлінкай, яе Якім—Вацлаў Радзюк. Ролі Пранцішка і Агаты выконвалі Сьцяпан Кісель і Аўгенія Кажан. Быкоўскага граў Янка Раковіч. Мы думалі, што рэжысёр Паланевіч пазамучвае нас на рэпэтыцыях, такі-ж быў ён патрабавальны. Мы цярпліва пад парадкоўваліся ягоным заўвагам, і прэм'ера прайшла цудоўна.

*У Нямеччыне, асабліва ў Баварыі, пасьля Новага году ёсьць звычай ладзіць бальмаскарад. Мы зладзілі першы раз яго на чужыне перад пастом. Залю ўдэкаравалі саламянымі павукамі. Бальшыня апранула нацыянальныя строі, але былі сярод нас пераапранутыя ў іншых герояў. Дваіх хлапцоў па-сапраўднаму зьдзівілі і нават крыху напужалі публіку, бо адзін апрануўся і загрыміраваўся пад Сталіна, а другі— пад Гітлера. Падабенства было паўнейшае, да таго-ж яны вельмі цікава зыгралі свае ролі.*

У Розангайме ў 1949 г. адбылася гістарычная падзея — хіратонія япіскапа Васіля (Тамашчыка). У адным з будынкаў лягера на другім паверсе, дзякуючы А. Чэрняку, Я Лукашэвічу, А Лукьянчыку, В.Семянчуку, В.Мельяновічу ды іншым мужчынам была змайстравана прыгожая цэркаўка. Жанчыны ўпрыгожылі яе вышытымі рушнікамі, прынесьлі іконы. Клаўдзія Каляда, Аўгеньня Кажан, Марыя Ханяўка, Ніна Стома пашылі аблачэньне япіскапу. Было яно зь беларускага кужалю, аздобленае гафтаваным беларускім арнамэнтам. Цешыліся ўсе, што хутка будзе беларускі япіскап, адродзіцца Беларуская Праваслаўная Аўтакефальная Царква. Цырымонію хіратоніі апісываць ня буду, аб ёй пісала газэта «Бацькаўшчына». Адно скажу: усе мы, праваслаўныя і каталікі адзін другому памагалі, каб людзі іншых нацыянальнасьцей пабачылі, што рэлігійнай нянавісьці паміж намі няма.

# Лісты і вершы Уладзіміра Караткевіча

29/XIII-57 г.

Здравствуй Лёня!

Получил сегодня твое письмо, очень обрадовался и решил во мгновение ока ответить, тем более что и вообще не люб лю задерживаться с письмами. Послезав тра буду праздновать Новый год здесь, в этих самых Лесовичах, в компании учителей. Конечно, будет самогон, конечно все напьются и станут петь песни вроде:

*«В тебе мищи лилі,*
*Та недобрі таки,*
*Серце мое,*
*серце мое.»*[1]

Впрочем, в программу будет внесено и приятное разнообразие. В 2 часа ночи к школе будет подана машина и нас рабов божих отправят к утреннему поезду на Киев на ст. Ольшаница. Будет довольно интересная история, дожно быть. Компания будет, должно быть, находиться в том состоянии когда «спьяну путают штаны и парусы» (Маяковский). Ну да это ничего. Как-нибудь выживем. В Киеве пробуду с неделю, надо рассея ться, иначе можно прямо сдохнуть от скуки. Ленька, как бы ты смотрел на приезд ко мне после написания диплома? Пробыли бы малость тут, а там мота нули на N-ное время в Киев (сделал бы отпуск дней в 5, тут это просто). Там бы и хохмили и пр. Это, конечно, не дом, но в общем, неплохо. Насчет Барнаула по-моему неплохо. Жаль только, что ты не сможешь приехать как-нибудь летом ко мне в Оршу. А впрочем, будут же у тебя отпуска. Ты вот что, ты мне отвечай лишь по окончании диплома, а то из-за ответа не выучишь какой-нибудь мудреной формулы и сядешь, а я себе потом этого век не прощу. Так что ты лучше работай сейчас. И меньше грусти, о том что было. Я понимаю как это тяжело, но поверь мне, неизлечимой больно была бы только смерть ее, что ли, да и то в тот период, когда она не сделала еще переоценки. А сейчас это пройдет, затянется, зарастет. И не предполагай в людях худшего. Они, конечно, свиньи, но раз лушчих нет, то приходится довольстововаться ими. В одной польской басне кабана просили высказать свое мнение о человеке. Он сказал, на мой взгляд, весьма мудрую вещь: «Не найгорша сьвиня». Это превосходно. И, значит, нужно всегда знать на что способны люди и чего можно ожидать от них. Не нужно считать их лучшими, но и худшими их считать не надо. Я себе, кажется, с успехом выдумал против таких вещей защитное, языковое отношение к жизни, оставаясь внутри самим собою. Трудно жить — читай Беранже, как бы это ни казалось вначале противоестественным, постарайся самога себя осмеять десятком ядовитых виршей и все пройдет. Когда меня, например, не приняли в аспирантуру, сделав предпочтение для одной министерской дочки — я сочинил цикл «Стоны сердца», в котром основная мысль была: «Буду чернилом мочиться, навоз из-под ректора есть, а все-таки попытаюсь в аспирантуру пролезть». А если к такому средству не лежит сердце — подумай о том, сколько есть не свете превосходных жен щин и красавиц, и умниц, и честных душ. Пусть не вышло раз — больно. Больно за то, что многие из них пошлы и ребячливы. Но ведь есть же иные. И должно

---

1. Працяг.Пачатак у № 9

же быть иное. Вот и все, Лёнька. Не надо грустить. Жизнь лучше чем нам иногда кажется, а если вспомнить, через сколько мерзостей пришлось продираться человеку (и отдельным людям), чтобы остаться хоть такими скромно-хорошими, каковы они сейчас, то нельзя не сознаться, что люди-ангелы божие.

Обосновался я неплохо, но, знаешь, об этом я лучше напишу в следующем письме, сейчас очень не хочется вспоминать об этом ( ты мне напомнишь?), а сейчас немного о виршах. Действительно, несколько светлеет, но насколько и надолго ли. А я всегда был крайне несовременным человеком. Посылаю тры стишка, все недавние. «За смерцю» написалось так. Читал польский юмор журнал «Шпильки», посвященный юмору Ю. Тувима и прочел там чудный прозаческий анекдот в две строчки, соблазнился и состряпал что-то вроде шуточки. Конечно, постараюсь пробиться. Чувствию я, что я уж слишком заразился и до конца жизни не вылечусь от этого. Работать хочеся, но, бог мой, до чего это трудно. Уже послал некоторые стихи в Минск и вообще, надо пробиваться. Слушай, а ведь какая чудная вещь «Оттепель». Действительно «Оттепель». И жаль, что еще не весна. А модных слов я не пугаюсь и вполне согласен с тобой, что главное писать честно и искренне. Это главное. Ну добро, в следующий раз, коли не забуду, напишу о планах, таких циклопических, что жуть берет. Пиши.Жму лапу.

В.Короткевіч

Р. S. И не нужно думать о людях хуже. Не нужно, родной.

У папярэднім лісьце (гл.Полацак № 9) Валодзя ўспамінае пра выстрэл. *У нашым клясе вучыліся хлопцы па 18-20 гадоў, даволі дарослыя людзі, якія прайшлі вайну на акупаванай тэрытрoрыі (Валодзя быў у эвакуацыі на Урале). Адзін з тых хлапцоў, Паўлоўскі, згубіў руку ў партызанскім атрадзе і быў чалавекам вельмі неўраўнаважаным. Ванька К. лічыў сабе вялікім акцёрам, чытаў у самадзейнасьці урыўкі з «Уваскрсеэньня» Талстога і завываў, падрабляючыся пад Качалава. (Між іншым, ён працаваў потым у нейкім тэатры на ралях «есьці подана». Ён быў на кляс старэйшы Валодзі і Паўлоўскага, рослы, нельга сказаць, што пры гажун, але з капной саламянага колера, са праўды прыгожых валос. Усе трое, ды і не толькі яны, былі закаханыя ў Кацярыну Іванаўну. Толькі, думаю, у тых двух старэйшых, гэта было ужо не платанічнае каханьне.*

*Падзеі, аб якіх апісваў Валодзя адбыліся зімой. У моцны мароз наш самадзейны тэатр выехаў на грузавіку ў Барань, гарадок пад Воршай. Не памятаю,ці везьлі мы «Рэвізора», але «Медзьведзя» і «Хірургію» дакладна. («Хірургію» разыгравалі мы з Юркам Падво). Чаму паехаў Паўлоўскі — ня ведаю. Ён ні ў пьесах, ні ў танцах не ўдзельнічаў.*

*Пасьля канцэрта я пачуў выбух, крыкі. Убачыў Паўлоўскага, якога хапалі за яго адзіную руку. Як даведаўся пасьля, Ванька сказаў нешта нядобра пра Кацярыну Іванаўну. У той момант зьявіўся Валодзя, але не пасьпеў нічога зрабіць, як Паўлоўскі, абараняючы гонар настаўніцы, выбухнуў з пісталета. Самае цікавае, што гісторыя не атрымала агалоскі, Ніхто не данёс на яго й ягоны рэвальвер (так, гэта ня быў самапал). Кацярына Іванаўна працягвала нас вучыць і віду не падавала, што нешта здарылася. Паступова афрыканскія страсьці заціхлі. У 1947 г. Кацярына Іванаўна выйшла замуж і ўехала ў Халопенічы.*—Леанід Крыгман

**Ад рэдакцыі:** Вершы, якія мы зьмясьцілі ў № 9. 10, былі прысланы разам зь лістамі. «Я да цябе, мой каханы», «За рэчанькай за быстраю...». «Іней», «Я помню», «За смерцю» друкуюцца ўпершыню. Поўны варыянт паэмы «Орша» друкаваўся ў № 9 «Полацака», таксама першы раз. (У зб.твораў т.1. паэма зь некаторымі зьменамі зьмешчана безь першых 22 радкоў уступа). Друкаваная раней паэма «Машэка» мела разыходжаньні ад аўтарскага тэкста.

(Працяг у наступным нумары)



## Машэка.

Лісце алае засыпае роў,
Пушчу чорную свіў сівы туман,
Атачон з усіх з чатырох бакоў
Цёмнай восенню мой лясны будан.

Стогнуць пад дажджом старчакі вальхі
І ў будан з багны напывае цьма,
У ім карэнні — сталь, ложак — ліст сухі,
Ні агню няма, ні светла няма.

Ад усіх я ўшоў, ад усіх я сбег,
Буйным воласам да калень зарос...
Сталі гады быццам белы снег,
Горы панскіх цел мой Днепро ўнёс.

Нішчу я паноў, замкі іх палю,
Я ламаю іх векавы бізун,
Памшчу за маю бедную зямлю,
За яе жальбу, за яе слязу,
За каханніца, за любоў маю,
Што ў пакоях іх кветкай адцвела,
Вые дзікі ветр у начным гаю,
Ночка нас з нажом як братоў звяла.

Я стаю як корч у воўчай скуры ўвесь,
Зліўся з дрэвамі і гляджу на шлях,
Цёмны я ўвесь, цёмны стары лес,
Толькі два агні свецяцца ў вачах.

Конскі тупат... Там... Далей ў гушчыне,
Нездарма я стаў гэту ноч на зыр;
Кінусь наперад, падхаплю каней
І спячэцца пан на маім нажы.
Ранкам я на ўсхіл выцягну яго
І скажу рацэ, што шалке тут:
„Ты прыймі яго, ворага майго,
Змый з маёй зямлі гэты панскі бруд."
Лісце алае засыпае роў,
Пушчу чорную свіў сівы туман,
Атачоны з усіх з чатырох бакоў
Цёмнай восенню мой лясны будан.




„З народнага"

* * *

Я да цябе, мой каханы,
Прыйду залатым лучом,
У сад твой ружовым світанкам,
На поле дробным дажджом,

На вусны ўсмешкаю краснай,
Зялёнай галінай ў маю,
У хату сонейкам ясным,
Каханкай у лоўку тваю.

* * *

За рэчанькай за быстраю ў цымбалы б'юць,
А там маю каханую за ручкі вядуць.
Адзін вядзе за ручаньку, другі за рукаў,
Трэці стаіць, сэрца баліць: каханай ды не ўзяў.
Нашто-ж мы кахаліся, нашто сады цвілі,
Нашто ж нашы пуцінaчкі травой зараслі?
Іншы з табой вянчаецца ў царкве залатой,
А мне адно вянчаніца з сырою зямлёй.



## Иней

Никогда уже! Снежком хрустят полозья,
Зимний лес проносится назад...
Смотрит он в твои, такие звёздные,
Мною так любимые глаза.
Синь очей твоих принадлежит другому,
Голос нежный для другіх поёт...
Как в бездонный, беспросветный омут
Я гляжу в грядущее своё.
Погляди и ты из-под ладони,
Но не в омут, лучше просто в даль,
Не моё ли сердце топчут кони,
Не мою ли песню и печаль?
Сани мчатся, сани улетают,
В брызгах снега их не видит глаз...
Я вдогонку песню посылаю,
Может хоть она догонит вас,
Может, догоняя, поцелует
Губ тепло, ресницы, холод век,
Всю тебя, извечно дорогую,
Но потерянную мной навек.
И потом, запутавшись, немая
В соснах, где царит мертвецкий свет,
Ветви голубые покачает,
Засыпая инеем ваш след.



## Я помню.



Темные как сажа ночи лета,
Прядь тумана в поле пролегла...
До щеки моей коснулся ветер
Лёгким дуновением крыла.

Кто это? Зачем меня ласкает?
Вздохи чьи тихонько пронеслись?
Может это вышла дорогая
Навестить меня из-под земли?

Превратилась в нежное дыханье,
В тихий полуночный ветерок
И пришла избавить от страданья
Друга, что остался одинок.

Милая, прижмись хоть на мгновенье.
Вижу. Пью. Без горя и без слёз
Нежное твоё прикосновенье
Мягкое как шёлк твоих волос.

Где ты? Где ты? Где твоё дыханье?
Может ты осталась навсегда
Одинокой прядкою тумана,
Что ушла неведомо куда?
Что это? Откуда эти звуки?
Вздохи улетевшие навек?
. . . . . . . . . . .
Протянув навстречу ветру руки,
Вслушиваясь замер человек.

## За см[illegible]цю.

/сюжэт запазычаны з Юліяна Тувіма/.



~~Прыпыніліся~~ адначы,
Заказаўшы сталы,
Трое чарапашак
У какцэйль-хол.
Бацька (год за 30)
У модным пінжаку
Жонку ў моднай сукне
Цягне пад руку.
З імі на какцэйлі
Сын з'явіўся іх:
„Хай сабе звыкае,
Ўжо ж амаль усаміх."

(Падсадзіўшы сына
На высокі стул,
Стары чарапаха
Корак адаткнуў)

„Ну-тка, дзетка, кеміх,
Хлопнем, брат, прасты,
Хто не п'е, не курыць
Не мужчына ты."
Пыюць чадзіну... двое...
Коўшы моцна п'е,
Бацька ўжо са стула
Кепска штось ўстае.
Лінуў дождж як з бочкі.
Як тут не круці
Міма ўстановы
Трэба ўсім ісці.
Стрэне падначальны
І наброшся ўсім,
Што „самога" бачыў
ў выглядзе такім.



© PDF: Kamunikat.org 2012 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2012




З парасонам лепей,
Не заўважыць ён...
Для аўтарытэту
Трэба парасон.

„Збегай жутка, сыне,
Ты за ім дамоў."
. . . . . . . . .
Хоць і неахвотна,
Але сын пайшоў.
Вось гадзіна... трэця,
Вечар запалаў,
Бацька з перасердзя
Лаяцца пачаў:
„Дзе яго там носіць?
Налізаўся... рад...
От лайдак, от трасца,
От падлючы гад.
Дзе бацькам павага
Ад такіх свіней?!?"
Лаяў дзве гадзіны,
Усё мацней, мацней.
І з парога голас
Адазваўся ім:
„Вы яшчэ палайцесь —
Не пайду зусім."




А зараз давайце вернемся да пачатку вайны. На той час зь сям'і Галубка ў Менску былі Ядзьвіга Аляксандраўна, тры дачкі Галубка і нявесткі зь дзецьмі. Але мы, маладыя,вымушаны былі пакінуць нашую халупу на Нізкім завулку. У Менску засталася толькі жонка Галубка. Яна разьвіталася з намі каля дома моўчкі, адным кіўком галавы. Сьлёзы, якія горкім камяком падступілі да горла, не далі ёй нешта сказаць ці параіць. Гэта была трэцяя вайна ў яе жыцьці. Бачыла яна першую імпэрыялістычную. (Тады Галубок завёз яе зь дзяцьмі ў Сягрееўскі пасад, што каля Масквы). Бачыла грамадзянскую, з ашалелымі белапалякамі, якія пры адыходзе зь Менска палілі і рабавалі яго, а старым яўрэям адсякалі сівыя бароды. І вось новае ліхалецьце.

Мы адыходзілі зь Менску праз Камароўку, дзе тады не было будынкаў, па якіх кідалі запаленыя бомбы, каб рабіць паніку і гнаць людзей з горада ў бок захаду. Паніка лепшы памочнік тым нямецкім парашутыстам, якіх уначы накідалі ў навакольным лесе, што ў той час быў побач ускраіны[1] Менска. Я цягнуў сваіх далей ад людзей і будынкаў. Ужо пачало цямнець, калі мы заўважылі палутарку, якая ехала насустрач нам. Яна спынілася, забрала жанчын і дзяцей, а я на хаду зачапіўся за прыступку. Потым пачуў каманду, каб схаваўся пад вайсковымі паддзёўкамі, бо ў машыне быццам-бы везьлі ў тыл сем'і афіцэраў. Ехалі нядоўга, каля Маскоўскай шашы знаходзіўся вялікі заслон і нас спынілі. Далей мусілі ісьці пешшу. Было зусім цёмна, але мы вырашылі прабірацца далей праз сасновы лясок. Раптам пачулі: «Стой!» На дрэннай расейскай мове ў мяне патрабуюць дакумэнты. Дастаў з кішэні вайсковы білет і пашпарт. Праменчык сьвятла электрычнага ліхтарыка выпадкова сьлізгануў па адзеньню побач стаячага — усё стала зразумела: гэта парашутны дэсант. Той, хто правяраў мае дакумэнты, параіў мне прыкрыць нашыя белыя ванзэлікі нечым цёмным і ісьці ціха, каб не прыцягваць увагі самалётаў, якія бесперапынку гудзелі і кружылі над лесам. Шлі мы нядоўга. Ля дарогі, што перасякала паляну, спыніліся, бо трэба было даць паспаць дзецям. Толькі кароткая ноч, хутка сьвітае.

Тым часам зь лесу выйшлі два міліцыянеры і накіраваліся да нас. На іх новыя шынэлі, на новенькіх фуражках блішчаць медзьдзю кукарды і гузікі. Чую расейскую мову зь нейкім акцэнтам: «У якім напрамку будзе Менск?» Я ў сваю чаргу запытаўся ў іх: «Чаму міліцыянеры ня ведаюць, дзе знаходзіцца Менск?» «А мы зь Літвы», — адказаў той, хто пачаў гаворку. «Адыйдзіце ў бок ад дарогі і ўбачыце дым, што падымаецца ў гару чорным шлейфа. Вось там гарыць Менск».

1. Працяг.Пачатак у № 5-9.

Зноў ідзем далей, наперадзе хутар. Зайшлі ў першую хату. У гаспадароў запыталіся дазволу спыніцца ў іх, пакуль ня стане ясна, што трэба рабіць далей. Тыя згадзіліся.

Пераначавалі. Усе старэйшыя на падлозе, а дзеці на драўлянай канапе ўпоперак. Раніцай зайшоў у хату нейкі мужчына і параіў мне далучыцца да іх групы ісьці ў Калодзішчы. Казалі, там ёсьць камендант ці нават ваенкамат. Як-ніяк мы-вайскоўваабавязаныя і нас могуць палічыць дызертырамі. Пытаюся, а колькі-ж чалавек у нашай групе. Аказалася, што сабралася шэсьць мужчын.

Мы ішлі па дарозе праз жытні палетак, калі нечакана зусім над намі пачаў страчыць самалёт. Мы схаваліся ў жыце. Ляжу на зямлі, а па ёй снуюць мурашкі, сонца пячэ, пралятае мятусьліва капусьніца, і нікому няма ніякай справы да людзей, што шукаюць ратунку адзін ад аднаго. Думкі пераскокваюць, хвалямі наплываюць успаміны... Але, дзякуй Богу,немец хутка адляцеў убок Менска — падняліся і зноў пакрочылі моўчкі далей. Усяго пяць кіламетраў да Калодзішчаў, а мы тры разы хаваліся ад кулямётнай чаргі з чыстага блакітнага неба.

У Калодзішчах зборышча народу. Эшалоны таварных вагонаў і плятформаў набіты людзьмі, у большасьці яўрэйскай нацыянальнасьці. Жанчыны лемантуюць, ідзе бойка за месца ў вагонах, а эшалоны не кранаюцца зь месца ўжо доўгі час. У чым справа зразумеў, калі ўбачыў аднаго салдата, які расказваў, што ў Смалявічах немец-парашутыст абяззброіў яго й адпусьціў на ўсе чатыры бакі. Зроблена гэтае было наўмысна, каб быў наш салдат жывым сьведкам, які паведамляў усім, што немцы не такія ўжо злосныя бандыты, асабліва, калі ты здасіся ў палон. А з другога боку, трэба было каб людзі ведалі, што Смалявічы знаходзяцца ў нямецкіх руках, і ніводны цягнік не кранецца зь месца ў Калодзішчах. Паніка павялічывалася з кожным новым фактам ўсё болей і болей, асабліва калі стала вядома, што ў Калодзішчах няма ні каменданта, ні ваенкамата. Нехта з нашай групы ўзлез на плятформу і зацягнуў нас з геадэзістам, зь якім я ўвесь час трымаўся разам, каб не застацца аднаму. Час ішоў, на чыгунцы ніякага руху, а народу прыбывала ўсё болей і болей. І ніякага начальства, ніякага парадку.

Усю ноч, ня спаўшы, прасядзелі мы з маім новым знаёмым на саломе ў нейкім хлеўчыку, а пад раніцу вырашылі ісьці ў Менск. Шлях недалёкі, але рызыкоўны. Бо адна справа, калі ідзе група з малымі дзецьмі і жанчынамі, а другая, калі ідуць два маладых мужыкі. Бачым, з хмызняку да нас крочаць маёр і зь ім два вайскоўцы. «Стой! Рукі ўверх!» — пачынаюць мацаць зброю, глядзяць вайсковы білет, пашпарт. Усё быццам-бы ў парадку. Тады пытаньні: «Адкуль ідзецё?» «З Калодзішчаў, там немцаў няма, яны ў Смалявічах.» «Куды ідзеце?» «У Менск да сваіх». Нас больш не затрымліваюць, ідзем далей. На працягу нашага шляху нас спрабавалі затрымаць тры разы. І кожны раз адны і тыя-ж пытаньні, нейкі спалох і разам з тым разгубленнасьць вайсковых людзей, якія шукалі выхаду з гэтага незразумелага становішча.

Між тым, Менск працягваў гарэць. У горадзе ніякай улады. Немцаў яшчэ не было, але свае ўжо даўно пакінулі Менск. Ніхто яго не абараняў, ніякай эвакуацыі не было. Усе каштоўнасьці былі пакінуты — бярыце ўсю бібліятэку Леніна, карцінную галярэю, а пра ўрадавыя будынкі я ўжо вышэй казаў. Так што ў Менску шло рабаваньне ўсіх складаў мукі, посуду. (Зазначу, што эмаліро-

ванага посуду ў продажы не было, а на складах ад яго ламіліся паліцы. Таксама там былі і кансэрвы розных гатункаў, мыла, адзеньне Усё пад чыстую людзі цягнулі на запас. Толькі грошы заставаліся ў незгаральных шафах у кожнай дзяржаўнай установе. У выніку яны пагарэлі неканчаткова і па абгарэлых баках іх можна было пазнаць доўгі час).

З геадэзістам я домовіўся ісьці ў гэты-ж дзень да сваіх у вёску, дзе яны засталіся. А пакуль мы праходзілі па Савецкай вуліцы уздоўж Дома друку. Стараліся ісьці бокам, бо на тратуарах ляжалі трупы забітых кулямётным агнём людзей у бальнічных халатах. Тыя беглі праз вуліцу з клінічнага гарадку, бо на яго кідаў немец невялікія запалкі, каб хутчэй запаліць карпусы і нарабіць як мага болей панікі.

Вярталіся ў вёску тым-жа шляхам. Каля палігонаў, што паблізу Маскоўскай шашы, невядома адкуль зьявіліся зь лесу нейкія вайскоўцы на канях.«У які бок на Маскву?» — толькі і запытаўся возьнік. Дзіўна, што вайсковец ня ведаў, дзе ўсход, а дзе захад. Мабыць, у паніцы ў ясны дзень ня змог адрозьніць кірункі сьвету па сонцу. І ныядзіўна. Чуліся гукі артылерыйскай пальбы, з захаду цягнуліся хмары, хутка цямнела. Мы ўскочылі ў глыбокі акоп, прытуліся ў кутку і сядзелі, прыслухоўваючыся, як прыбліжаюцца гукі снарадаў. Здавалася, што яны ляцяць над галавою. Мы сядзелі моўчкі, аб чым гаварыць? Успаміналіся мірныя часы. Колькі разоў мы сядзелі на лекцыях, прысьвечаных міжнароднаму палажэньню, дзе лектар зь вялікай павагаю да таго, аб чым ён сам тлумачыў, казаў, што пралетарскі інтэрнацыяналізм не дазволіць фашызму напасьці на радзіму Леніна, што кампартыя Тэльмана настолькі моцная духам камуністычнае салідарнасьці, што ніхто з камуністаў ня будзе страляць у савецкіх людзей. Разьлічвалі то на салідарнасьць пралетарыяту, то на брацкую нямецкую кампарыю, а то і на непераможную Чырвоную армію. І, галоўнае, усе мы тады верылі лектару. Як-жа! Ён доктар гістарычных навук, у мінулым вучыўся ў Вышэйшай партыйнай школе. А колькі гэтых краснабаяў, колькі палітрукоў розных рангаў было у партыйных, армейскіх, камсамольскіх і нават піянерскіх арганізацыях? !

*Адразу пасьля вайны ў памяшканьні ЦК КПБ быў толькі аддзел агітацыі і прапаганды, а калі прайшло гадоў пятнаццаць зьявіліся аддзелы культуры, ідэёлягічны, навукі і прапагадны. Былі вызначаны інструктары па ўсіх відах мастацтва, літаратуры, выяўленчага мастацтва, музыкі, архітэктуры, быццам і не існавала Міністэрства культуры. Апошняе слова заставалася заўсёды за ЦК. Вось і атрымоўвалася, што эскіз звычайнага запрашальнага білета ніхто ня мог узяць на сябе адказнасьць зацьвердзіць у аддзеле выяўленчага мастацтва Міністэрства культуры. Яго несьлі ў ЦК, а там з рук у рукі даходзіў ён да самога «хозяина» — Пятра Машэрава.*

*Аднойчы мне спатрэбілася зацьвердзіць у ЦК экслібрысы, зробленыя на імя Кузьміна й Антановіча. Мне нельга было без іх згоды даваць свае творы на выстаўку, бо на кніжным знаку стаялі іх прозьвішчы. Як і першы, такі і другі даручылі інструктару Бузуку весьці з мною размову ад іхняга імя. Сутнасьць яе звадзілася да таго, што яны не давалі згоды на публікацыю эклібрыса, а таксама на яго друк і выстаўку, нават не ўбачыўшы, што мастак на экслібрысе намаляваў. Чаму спатрэбілася ім выклікаць мяне ў ЦК, ня ведаю. Толькі для таго, каб Бузук перадаў іхні адказ? Але чаму тады нельга было пазваніць мне*

*дахаты й адмовіць ў маёй звычайнай* працы? *А можа барацьбіты ідэёлягічнага і культурнага франтоў проста хацелі, каб я наведаў будынак ЦК, у якім я ўжо даўно ня быў.*

*Перад тым, як атрымаць пропуск у гэты дом мне прыйшлося пачакаць нейкі час у так званым бюро прапускоў. Некалі ў гэтым доме была сталоўка ЦК з двума паверхамі: ўнізе харчаваньне для ўсіх, наверсе — толькі для апаратчыкаў. Але зараз гэты будынак ператварыўся ў дом чаканьня або вакзал, у якім не хапала толькі валісак і дзяцей. Хто чытаў газэту, хто драмаў, хто нэрвова крочыў з вугла ў вугал. Заля была вялікага памеру. Шмат людзей чакала тут свайго прысуду і залежыла ад волі, настрою гэтых краснабаяў.*

...Змокшыя з брудам дацягнуліся мы з геадэзістам да вёскі. Усе Галубкі былі шчасьлівы, што я вярнуўся жывым. Мы вырашылі вяртацца ў Менск. Падмацавaліся крыху і пацягнуліся да Маскоўскае шашы. Але не пасьпелі нават наблізіцца да яе, як ўбачылі, што ў бок Масквы імчыць некалькі танкаў, а на іх чорная свастыка. Толькі некалькі жанчынаў сьмела крочылі насустрач тым імклівым танкам. Іх ніхто не чапаў, ніхто не турбаваў. Пайшлі тады і мы. Да нас далучылася нейкая дзяўчына.

Мы йшлі па левай старане шашы, насустрач калоны машын-бранетранспарцёраў. Упершыню я бачыў маладых, з закасанымі рукавамі немцаў. Усе сьпявалі, рагаталі, з заведзеных патэфонаў гучала музыка, нехта граў на губных гармоніках. Яны, бестурботныя, адчувалі сябе ў бяспеке. На галовах не было нават шлемаў. Бландыны — Зігфрыды ды і толькі. Калоны цягнуліся бесперапынку. Час ад часу ў адчыненых легкавушках кацілі сівыя афіцэры вышэйшага рангу. На нас ніхто не зьвяртаў увагі, па ўсяму відаць, што немцам абрыдла бачыць па ўсёй Эўропе бясконцую стужку ўцекачоў, што зь дзецьмі ды старымі бацькамі цягнуліся то ў адзін бок, то ў другі.

Цяжка было ісьці гэтыя сем-восем кіламетраў побач з асфальтам у пылу ды несьці (на барана) свайго Генку, якому ўсяго чатыры гады. Пляменьнік Сярожа меў шэсьць гадкоў, але ненадоўга й яму хапіла сілаў ісьці самастойна. Яго маці Эмілія Галубок па мужу Міхайловіч, цяжарная, ёй ісьці нелягко, але што будзеш рабіць. Яе муж маёр Міхайловіч прывёз іх з сынам з Гродна да сьвякрові, а сам мусіў хутка вярнуцца ў сваю часьць. Гэта быў для ўсіх нас першы й апошні момант сустрэчы зь Міхайловічам. Жонка Леапольда Галубка Марыя вяла за руку шасьцігадовую Ізу. Без бацькоў ішла з намі Слава, дачка Багуславы, ёй шэсьць гадоў. Яе бацька вядомы хірург дацэнт, мусіў чапляцца на машыну з уцекачамі ў напрамку на Масквку ды недзе ў дарозе афармляцца да часьці мэдпрызначэньня. Скончылася вайна, калі ён быў ужо галоўным хірургам у войску Мясьнікова. Мая жонка Вільгельміна нясла вялікія вузлы зь бялізнай. Мая маці прасіла часьцй рабіць перапынкі, бо не хапала ёй старой моцы на такі далёкі шлях. А ў небе бесперапынку кружылі баявыя самалёты. Адазвала мяне ў бок тая дзяўчына, што яшчэ зь вёскі далучылася да нас, і запыталася, што ёй рабіць з камсамольскім білетам. Ня мог-жа я ёй параіць зьнішчыць як мага хутчэй яго, інакш набярэмся ўсе мы клопату. Кажу: «Думаю, што савецкія войскі адступаюць часова і хутка вернуцца. Дык пакуль тое будзе зарыйце пад сасною свой білет, у хустачцы, можа, захавацца да нейкага часу». Больш мы з гэтай дзяўчынай не сустракаліся, але ў памяці засталося нешта непрыемнае, ці то нашая агуль-

ная наіўнасьць, ці вера дзяўчыны ў камсамольскі білет, як у ідэю, якую калі згубіш, дык панясеш кару.

Тым часам мы падыйшлі да Уручча. Пару дзён назад тут стаяла савецкая вайсковая часьць, зараз нямецкая ахова ля брамы. Ды не адзін вартавы, а пяць чалавек у адзеньні, падобным па колеру на савецкую ўніформу. Былі яны ў масках і з матацыкламі. Уздоўж шашы цягнуўся ў два метры вышынёю плот, пафарбаваны ў зялёны колер — гэта агарожа вайсковага гарадка. Раптам над плотам узьнікла фігура нямецкага салдата, якая хутка схавалася за агарожу. Пачулася: «Камрат!»— і нешта паляцела пад мае ногі. Усе спачатку перапалохаліся, можа, граната. Але я ведаў, што камрат азначае прыяцель. Гэты прыяцель кінуў нам добры кавалак кракаўскай каўбасы. Я падзякаваў яму за яе, а сам падумаў, толькі каб яна ня была з атрутаю.

Нарэшце, мы ў Менску. На былым стадыёне нічога няма акрамя цэмэнтовага, пафарбаванага ў срэбраную фарбу, манумэнта таварышу Сталіну. Той трымаў ў руцэ нямецкі штандар з свастыкай на белым крузе і чырвоным палотнішчы. Так, гэта быў бязьвінны нямецкі жарт.

І вось мы ў роднай хаце. Даю кошцы кавалачак каўбасы для пробы. Каўбаса ёй спадабалася, і мы сьмела самі частуемся падараункам камрата разам з кашай з гарохавага брыкету, які выпадкова знайшлі па дарозе ў Менск.

Усе дзеці Галубка і яго ўнукі патроху разьмясьціліся ў драўляных дамах-камуналках і пакоях, якія нехта пакінуў. Што за ўмовы жыцьця былі тады, зараз цяжка сабе ўявіць. Набліжалася першая зіма пасьля захопу Менска, ні табе дроў, а ні торфу, ні газы не было. Ні купіць, ні ўкрасьці нельга. Хадзілі ўначы зь пілою ды зь сякераю на польскія могілкі — Залатую горку, рубілі і пілавалі шматгадовыя бярозы ды сосны, вядома, што пад сакрэтам. Ды і ня толькі мы, усе хто жыў на Камароўцы. Цягнулі з будоўлі на Круглым пляцу будаўнічы лес і ўсё, што гарыць у печы. Рубілі фруктовыя сады, якіх хапала на Камароўцы, там дзе згарэлі хаты і не было жыхароў: Ну а далей, Багуслава пераехала ў мястэчка Узда й узяла з сабою сястру Эмілію зь яе сынам Сярожам ды немаўляткай Ларысай. Эмілія забрала з сабою таксама хворую маці. На плечы Багуславы леглі клопаты аб сям'і ў складзе шасьці чалавек. Толькі тое, што яна была па прафэсіі доктарам, і выцягнула з галечы сям'ю, бо на вёсцы доктар чалавек, якога нікім не заменіш.

А ў Менску стала вядома, што партызаны забілі галаву горада Менска — прафэсара Іваноўскага. Было яшчэ няцёмна, калі на Іваноўскага, што ехаў зь сваім рамізьнікам, наскочылі два чалавекі. Адбылося гэта каля Нямігі, дзе была мяжа яўрэйскага гета. Білі яго нейкімі мэталічнымі прэнтамі, каб было ціха, бо ніякага стрэлу не было чутно. Іваноўскі езьдзіў у калымажцы безь якой-небудзь аховы. Аднойчы я бачыў яго на нашым Нізкім завулку, калі ён наведваў сваю каханку, былую актрысу радыяцэнтру. Стары чалавек зь сівою барodкаю выглядаў неяк мала сур'ёзна. Быццам школьнік, а не галава горада сядзеў і чакаў ён сваю выбраньніцу. У Менскай газэце пісалася, што партызаны не пашкадавалі старога прафэсара, простага і дэмакратычнага чалавека, які быў вельмі даступны. Хавалі Іваноўскага пышна, бо трэба было падкрэсьліць, якога каштоўнага чалавека забілі «лясныя зладзеі». А на самой справе Іваноўскага забілі гестапаўцы, што наехалі з Смаленску. Забілі яго, каб пераканаць народ ў бандыцкай сутнасьці партызанаў.

Гаўляйтэр Кубэ быў падарваны на ангельскай міне з гадзіньнікавым разьлікам, замацаванай у ложаку. Зьнешнасьць яго ніяк і нічым не адрозьнівалася ад звычайнага бауэра: рыжы і лысы, ружовы твар, ніжэй сярэдняга ўзросту. Бачыў я яго толькі аднойчы. Ён ішоў каля Сьвіслачы, а зь ім усяго адзін чалавек, у такой-жа як і ён вопратцы, з свастыкай на рукаве. Пэўна, што гэты другі быў нехта з аховы, бо ня магло такога быць, каб Кубэ абыходзіўся безь яе. Казалі, што гаўляйтэр меў значок з залатым колам і малым нумарам, што азначала яго блізасьць да фюрэра.

Алена Мазанік, якая падклала міну, працавала пакаёўкай у Кубэ ў яго асабняку на вуліцы Энгельса. Мазанік была вельмі прыгожай жанчынай, ёй яшчэ не было трыццаці гадоў. Партызаны скарысталі яе блізасьць да Кубэ і пад пагрозай сьмерці прымусілі зрабіць дывэрсыю па ліквідацыі гаўляйтэра. Дывэрсія адбылася ў канцы верасьня 1943 года, а праз тры гады, у 1946 годзе, жанчыну прынялі ў партыю. У дывэрсіі прымала ўдзел і Марыя Осіпава. Яна стала сябрай КПСС, калі ёй было 19 гадоў. Гэтым жанчынам прысвоілі званьне Герой Савецкага Саюза ў тым-жа 1943 годзе. Забойства аднаго гаўляйтара Кубэ каштавала нашаму народу тысячы ні ў чым непавінных ахвяраў.

Пасьля зьнішчэньня гаўляйтэра наступілі цяжкія дні для ўсіх жыхароў Менска. Ніхто ня ведаў, што прыдумаюць за помсту немцы. Таму большасьць людзей нейкі час сядзелі па хатах. Тая хваля пакараньняў пракацілася адразу і вельмі шырока абвяшчалася праз лістоўкі на беларускай і нямецкай мовах, што расклейваліся на тэлеграфных слупах ды на сьценах руінаў. Бралі заложнікаў па розных прычынах: ня меней чым сто чалавек за псаваньне лініі электраперадачі лініі тэлеграфных правадоў. Вядома, што зьнішчылі людзей, не маючых ніякага дачыненьня да дывэрсіяў. За гэтыя ахвяры нясуць адказнасьць тыя партызанскія кіраўнікі, якія рабілі гэтыя нязначныя дыверсіі, ведаючы, што будуць пакараныя нявінныя жыхары гарадоў і вёсак. Такім кіраўнікам было ўсё роўна, колькі людзей загіне абы рапартаваць партыйным абкамам, што вядзецца барацьба зь нямецкімі захопнікамі, з нарастаючай колькасьцю эфэктыўных дывэрсыяў.

Мне карцела распазнаць, што будзе далей пасьля забойства гаўляйтара Кубэ, і я пайшоў да Петэра Грэйвена, у яго будаўнічы батальён. Ён бліснуў сваіма чорнымі вачыма, падыйшоў да мяне, схапіў за каўнер і прабурчаў: «У гестапа». Я ўжо казаў, якіх поглядаў трымаўся гэты інжынер. Відаць было, што ён не надта сумуе па Кубэ, і гэтага ён не хаваў ад мяне. Але і тут ён падкрэсліў немэтазгоднасьць акцыі тэрору супроць адзінак, няхай сабе і высокастаячых асобаў з фашысцкае эліты. Афіцэры і салдаты Вермахта ня толькі не паважалі, а хутчэй ставіліся з пагардаю да партыйных кіраўнікоў у Вермахце, як пра прапагандыстаў стукачоў, якіх ніколі не было ў нямецкай арміі да Гітлера.

Калісьці тэрор народнай волі супроць цара і генерал-губэрнатараў быў асуджаны, бо замест нябожчыка губэрнатара ставілі іншага, можа больш каварнага. Так адбылося і з Кубэ. Замест яго прыслалі генерала Готвальда.

(Працяг у наступным нумары)



# З «Масеевай кнігі»

Масей Сяднёў

### «Новая земля» Якуба Коласа

Прачытаў яшчэ раз гэты твор —като ры раз! — і ўбачыў у ім, чаго ня бачыў раней: вялікага Якуба Коласа, найболь шага мастака слова, які толькі існаваў у беларускай літаратуры, і баюся— ці заіснуе калі-небудзь наогул. Баюся, што гэта апошняе слова беларуса, якое ён сказаў вуснамі свайго вялікага песьняра. Ня будзе Беларусі, але — памёрлая —яна навечна застанецца ў гэтым творы, як засталіся «Іліяда», «Адысея», «Пан Тадэуш». Страціць беларус дарэшты ўсе свае нацыянальныя прызнакі, уключна з мовай, але цікаўны патомак знойдзе гэтыя прызнакі ў паэме Якуба Коласа «Новая зямля» — у ёй знайшоў беларус найбольш глыбокае, найбольш праўдзівае, найбольш таленавітае адлюстраваньне свайго характару. Будучы гісторык пашкадуе, што зьнікла, як тая Атлантыда, прыгожая зямля — Беларусь і народ, які жыў на ёй. Да болю яму будзе крыўдна, што гісторыя была такою бязьлітасна бязбожнай да беларуса, што ніхто, абсалютна ніхто не прыйшоў на дапамогу яму, калі ён гінуў, зьнікаў. Чарнобыль спустошыць зямлю нашу, і толькі па «Новай зямлі» Якуба Коласа патомак даведаецца, якою яна была пры гожай у сапраўднасьці.

Мініятуры Янкі Брыля ў «Полымі» (Жнівень, 1990) нагадалі мне адно выказваньне Максіма Багдановіча. Усьлед за Буало ён сказаў, што добра напісаны санэт варты цэлай паэмы. Па аналёгіі сказаў-бы, што празаічныя мініяцюры Янкі Брыля вартыя цэлага рамана.

### «Жыцьцё па-за культурай»

Амаль усё сваё жыцьцё мне, эмігранту, давялося жыць па-за культурай. Я жыў у розных культурах, але ніводнай зь іх не спасьцігнуў. Колькі-б ты ні стараўся ўвайсьці ў чужую культуру, у яе, нават пры вялікім намаганьні і здольнасьці, ня ўвойдзеш: у ёй трэба нарадзіцца. Інакш яна заўсёды ловіць цябе на тваёй недасканаласьці. І гэта балюча.

Я нарадзіўся ў беларускай — у шырокім сэньсе — культуры, але быў пазбаўлены яе. Адсюль мая недастатковасьць і надлом.

Нас наведаў паэт Генадзь Бураўкін з жонкай Юліяй. Падарыў «Полымя» з падборкай маіх вершаў і ягоным словам пра мяне. Гэта было прыемна. За абедам трохі выпілі. Гутарка была лятучай. Доўга яны не заседжваліся — сьпяшаліся наведаць яшчэ некага. У гутарцы з маёй жонкай сп.Юлія зазначыла, што пазнаёміўшыся з тым ці іншым паэтам асабіста, дзівуешся, наколькі ён не адпавядае таму ўяўленьню аб ім, якое складваецца пры чытаньні іхных вершаў: «Яны ня гэткія»

Прыгадваюцца радкі з Пушкіна пра паэта: *«И меж детей ничтожных мира, Быть может, всех ничтожней он».*



## 71-я ўгодкі Слуцкага паўстаньня

ўрачыста адзначаліся 8 сьнежня ў новай залі «Полацак», якая была ўдэкаравана сым балічнай магілкай. Літургію і паніхіду адпраўлялі пратаярэй а.Міхась Страпко з ера манахам Якуба. Пасьля багаслужбы адбылася акадэмія. Яе адкрыў камандзір Беларуска-Амэрыканскіх Вэтэранаў Кліўленда Я.Каваленка. Ад імя ўкраінцаў акадэмію прывітаў пратаярэй а.Багдан Бандарчук. Потым Я.Каваленка зачытаў пісьмовыя прывітаньні і запрасіў Міхася Белямука зрабіць даклад. Дакладчык ахарактэрызаваў сытуацыю падзей у Слуцку і прычыны ўпадку паўстаньня.

—Заходнія дзяржавы дапамогі нам тады не далі. Яны хацелі зьберагчы імпэрыю Раманавых. Амэрыка і сёньня ня хоча прызнаць Рэспубліку Беларусь. Мы выразна бачым, што амэрыканскі ваенны-індустрыяльны комплекс ёсьць супроць падзелу СССР на нацыянальныя і незалежныя рэспублікі. Ідэі гэтага комлексу відавочныя, падзел СССР і ліквідацыя камуністычнага таталітарызму падзейнічае на грамадзян ЗША й яны будуць дамагацца скарачэньня ваеннага бюджэту. Амэрыканскім ваенным акцыянерам гэтае не падабаецца, бо ліквідацыя пагрозы ваеннага канфлікту ліквідуе акцыянерныя прыбыткі.

Аднак трэба спадзявацца,—сказаў дакладчык, —што кроў, пралітая случакамі, дарэмна не прападзе. Камуністычная імпэрыя развальваецца і бел-чырвона-белы сьцяг, пад якім Слуцак змагаўся, стаў дзяржаўным сьцягам Беларусі.

## Помнік Максіма Багдановіча

будзе хутка ў Яраслаўлі. Аб гэтым гаварыў на ўрачыстым адкрыцьці музэя клясыка нашай літаратуры ў Яраслаўлі старшыня клюба «Спадчына» Анатоль Белы. Сп. Белы прыслаў у рэдакцыю часопіса «Полацак» тэлеграму, у якой ад імя клюба «Спадчына» і сябе асабіста выказаў падзяку ахвярадаўцам, шчырым змагарам за Адараджэньне Бацькаўшчыны, якія адгукнуліся на заклік клюба «Спадчына» і прыслалі $: Мацьвей Рэпкаў-Смартшчок 100, Мікалай Грэбень 50, Браніслав Даніловіч 50, Уладзімір Бакуновіч 100, а. Васіль Кендыш 20, Янка Юхнавец 20, Сяргей Карніловіч 50, Кастусь Акула 20, Юрка Касьцюкевіч 20, Кастусь Верабей 20 ,Уладзімір Набагез 50, Кастусь Калоша 50, Вера і Вітаў Рамук 30, Міхась Белямук 50, Мікалай Латушкін 200, Яўхен Макаровіч 50, Уладзімір Маркоўскі 20, Ніна і Павел Агалец 50, Мікалай Валатоўскі 50, КастусьЗагонек 10, Федар Якіменка 10, Грыгоры Стоцкі 10, а. Мірaслаў Кулік 25, Даніла Швефель 10, Міхась Каленік 100, Аляксандр Сутынец 5, Валентына Талочка 5, Янка Кравчук 10, Пётр Нягода 50, Віталь Цярпіцкі 20 .





# У 1991 г. даслалі ў рэдакцыю «Полацак» $

Абрамчык М. 12, Азарка Я. 12, Акановіч А. 13, Акула К. 36, Андрусышына Ю. 50, а, Андрэюк В. 18.

Балтрушэвіч В. 55, Бакуновіч Ул. 80, Бахар М. 6, Беленіс А. 24, Белямук М. 5800, Брылеўскі Л. 60, Барсук М. 5.

Варабей К. 50, Вініцкая К. 47. 50, Ворт К. 53 50, Высоцкі Л. 26, Вярбіцкі 6,

Гайдэль А. 19.50, Галоўка М. 78, Галяк Р. 50, Ганько М. 6, Ганэцкі П. 100, Гасьцеяў Ю. 37, Гарошка Р. 50, Говард Ф.40, Грабінскі Б. 32. 50, Грынкевіч К. 40, Грыцук О.36, Грэбень М. 60, Гутырчык С. 49, Гуцко Ул. 13,

Даніловіч А.6, Даніловіч Б.113, Данілюк Б.19.50, Дубаневіч Т.5, Дунец У.5, Дубяга А.12

Жук-Грышкевіч Р. 6,

Завістовіч Р. 50, Занковіч Е. 26, Запруднік Я. 110,

Каваленка В.10, Каваленка Я. 32, Каляда Ю. 10, Калядка М. 25, Кажан А. 20, Кажан В . 90, Кажура П. 39, Каленік М. 30, Калоша К. 250, Кананчук Г. 20, Кананчук Т. 5, Карніловіч Сл. 5, Карніловіч С. 220, Касьцюкевіч Я. 43, а.Кендыш В. 13, Каханоўская І. 37, Кікта С. 20, Кіпель В. 47, Косараў 6.50. Кулеш П. (Мельяновіч С.) 55, Кучура М. 24, Кумэйша М. 13, Крыстыніс А. 26, Кірка Б. 7,

Латушкін М. 114, Лукьянчык А. 37, Лукашэвіч В. 5. Літаровіч Л. 15,

Мароз Г. 42, Маталыцкі К. 20, Махнач М. 18, Мерляк К. 40, Макарэвіч Е. 50, Міраеўскі А. 25, Міцкевіч А. 26, Монід А.50, Махахей С.30, Мазуро К.20, а.Махнюк А. .20,

Набагез Ул. 150, Навагародзкі Я. 20, Найдзюк Ч. і Я. 48, Наумчык С. 32, Наумчык Ю. 30, Нестар М. 33, Недзьведзкі П. 106, Норчык Л. 20,

Орэхва В. 43, Орса-Романа А. 78,

Палескі А. 112, Палонская Ю. 15, Пелеса А. 41, Палюховіч М. 36, Пятроўскі Я. 15, Плескач В. 20,

Рагуля Б. 12, Радзюк Г. 37, Раковіч Я. 42, Ракуць Ул. 75. 50, Рамук В. 30, Русак Ул. 6, Рэпэцкі Г. 6, .

Сажыч Я. 31,Северанюк Л. 22, а. Сегень А. 17, Семянчук А. 12, Сенька М. 86, Сергеевіч В.42, Сільвановіч 12 Смартшчок М. 150, Стагановіч Л. 6, Станкевіч Ю 110, Стома В.12, а. Страпко М. 60, Стрэчань А. 32, Субота А. 24,

Тулейка М. 43, Тэдона Г. 26, Тумаш В.50, Трусевіч Л.25,

Філістовіч А. 56.50,

Ханенка Я. 50, Хмара С. 30, Хрэноўскі А. 19.50,

Цупрык І. 80, Цярпіцкі В. 46, Целеш А. 40,

Чарнецкі А. 24,

Шабовіч С. 6,50, Шавейка М. 5, Шчорс І. 40, Шчорс М. 35, Шчэцька В. 50, Шурак Л. 40, Шукелойц А. 50, Шымчык Я. 50,

Юхнавец Я. 52,

Яканюк Ул. 57, Яраховіч А. 20, Яцэвіч В. 42,

Прыход Жыровіцкае Божае Мацеры ў Кліўлендзе 5000,

Аддзел БАЗА ў Кліўлендзе 300,

St. Gerorge Orthodox Mission 10,

Cleveland Public library 60.

## Усім вялікае дзякуй!

Рэдакцыя спадзяецца, што ўсе, хто атрымаў 10 выпускаў часопісу ўрэгулююць залегласьць і адновіць падпіску на 1992. Гадавая падпіска на часопіс «Полацак» пры індывідуальнай рассылцы каштуе $ 60 або $6.50 за кожны нумар. Цана падпіскі часопіса праз нашых прадстаўнікоў— $55 або $ 6 за кожны нумар.

# Публікацыі часопіса «Полацак» за 1991 год.



*Памяць зямлі*



*Пачынальнікі*



*Роднае слова*





*Вокладкі і развароты часопіса ўпрыгожвалі творы мастакоў:*

# МЕНСКІ ГРАМАДСКА-АСЬВЕТНІЦКІ КЛЮБ




ВЫКАЗВАЕ ВАМ

САРДЭЧНУЮ ПАДЗЯКУ

За пільны клопат аб Бацькаўшчыне

і шчырае ахвяраваньне на помнік

Максіму Багдановічу

ў г. Яраслаўлі

